Таццяна Барысюк

# АЎТАПАРТРЭТ

Вершы

Мінск
УП «Тэхнапрынт»
2002

УДК 882.6-1
ББК 84(4 Беи)-5
Б 16

**Барысюк Т.**
Б 16 **Аўтапартрэт.** Вершы / Т. Барысюк. — Мн.: УП «Тэхнапрынт» 2002. — 180 с.

ISBN 985-464-240-2

Таццяна Барысюк нарадзілася 18 кастрычніка 1971 года ў Мінску. Пасля сярэдняй школы і Мінскага педвучылішча скончыла філфак БДУ і аспірантуру Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, дзе працуе малодшым навуковым супрацоўнікам.

Вершы Т. Барысюк друкаваліся ў часопісах «Першацвет», «Маладосць», «Крыніца» і штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». У зборніку «Аўтапартрэт» прадстаўлены творы, напісаныя за апошнія дзесяць гадоў. Кампазіцыйны прынцып іх размяшчэння — хроналагічны (у межах нізкі) і жанрава-тэматычны.

Паэтка балюча перажывае выпрабаванне пакутамі, пасланымі лёсам, абвострана адчувае супярэчнасці свету, шукае сэнс свайго існавання ў ім.

*Светлай памяці бацькі майго —*

*Пятра Пятровіча Барысюка*

*прысвячаю*

*Для мяне ствараць паэзію — значыць пісаць сваім лёсам, маляваць аўтапартрэт душы. Бяруся за асадку толькі тады, калі ёсць што сказаць свету, калі душа разрываецца ад супярэчлівых пачуццяў ці адчаю.*

*Хаця і маю вялікую цягу да цікавых жанравых форм, аднак асноўным стымулам да творчасці ўсё ж застаюцца жыццёвая падзея, роздум або назіранне — тое, што ўскалыхвае душу да самай глыбіні і прымушае шчыра выказацца.*

## МАІМ ЧЫТАЧАМ

Я кніжкай мушу вас спыніць
і затрымаць хоць на імгненне.
Вось да сардэчных скарбаў ніць —
маіх узлётаў і падзенняў.

Вам можна ў вочы паглядзець?
Вы зразумець мяне павінны,
як дакранецеся ледзь-ледзь
душы маёй страсцей-глыбіняў.

Я мару ў вас уваскрасаць
у думках і не ўпасці ў Лету...
І ў вершах вобразам ствараць
сваю карціну свету.

*Die Engel, die nennen es*
*Himmelsfreud,*
*die Teufel, die nennen es*
*Höllenleid,*
*die Menschen, die nennen es —*
*Liebe.*

*H. Heine*

*(Анёлы завуць гэта нябеснай*
*уцехай,*
*чэрці — пякельнай пакутай,*
*людзі — каханнем.*

*Г. Гейнэ)*

*М.К. — першаму каханню і мужу*

# НЕНАВІДЖУ І КАХАЮ

* * *

Пяшчотны позірк твой крануў
нацягнутыя ў сэрцы струны,
пачуццяў неспакойны вулей
пяшчотны позірк твой крануў.

Тады, вітаючы вясну,
табе сказала ў думках: «Любы!..»
Пяшчотны позірк твой крануў
нацягнутыя ў сэрцы струны.

* * *

Не ўбачу больш цябе, бывай!
Суіснаванне нам — пакута.
Але ж і памяць, як атрута...
Не ўбачу больш цябе, бывай.

Стамленнем поўніцца адчай,
і вусны мовяць ледзьве чутна:

«Не ўбачу больш цябе, бывай!
Суіснаванне нам — пакута...»

## ВЕРШ У ПРОЗЕ

Ёсць вочы агністыя і цьмяныя.
Агністыя —
як хата, у якой існуюць галасы,
клопат і каханне.
Цьмяныя —
як пакінутае жытло духу,
здрада, смерць кахання...
Любы, ажыві мае вочы!..

* * *

У люстэрку няволі
кратаваныя мары.
Сон сказаў мне: «Даволі,
каб твой лёс быў не марны!»

Краты сталі дэкорам,
а турма — Храмам Боскім,
я — маўклівым дакорам
тваіх слоў-адгалоскаў.

* * *

Прачнулася ноччу ад дотыку
твайго нецярплівага цела.
Пад месяца хворымі промнямі
яно мармурова бялела
і гойсала ў жудасным танцы
ўгары, быццам здань над магілай.
А неба ў паўночным убранстве
мне ў твар шугавеяла стынню.
Ды памяць — мой банк інфармацыі —
мне выдала тэкст на дысплеі:
«Каханне рэанімацыі
не вытрымала — памерла...»
Так, мы разышліся навекі,
і ты — толькі сну вычварэнне...
Мы ў розных з табою адсеках .
прасторы, часоў, вымярэння.
Навошта мне ноч шчэрыць зубы?
Навошта шле выпрабаванне?
Не вернеш, не спраўдзіш, мой любы,
не ўскросіш так наша каханне.
Здань знікла ад дотыку пальцаў.
З павекаў слязінку сагнала...
І месяц засмучаны ўбачыў,
што дзесьці каханне сканала.

* * *

Золкім ранкам, прачнуўшыся,
я ўбачыла поўню ў нябёсах.
Маленечкая, яна саграваць душу,
нібыта мініяцюрнае сонейка.
«О, цуд!» — узрадавалася я.
Але, міжволі азірнуўшыся,
заўважыла за спінаю лямпачку,
адбітак якой на злашчасным шкле
я прыняла за поўню...
Сэрца сціснулася балюча,
і адна неадчэпная думка
пачала свідраваць мозг,
выпрабоўваць мяне пякельным полымем:
навошта я згадзілася жыць з табой
у гэтым падманным Царстве Ценяў?..
Навошта прыжыццёва пайшла
ў замагільны халодны свет
тваіх абяцанак пра шчасце?
Навошта кінула бездапаможнае цела
ў жалезныя абцугі тваіх абдымкаў,
у якіх душа, бы вязень,
трызніць аб волі?
...Здань поўні ўцякла,
калі выключыла святло.

І ты знікнеш,
калі мая душа адляціць у вырай.

* * *

Ты пайшоў ад мяне, бывай...
Сэрца сцялася вострым болем.
Насцярожылася наваколле.
Ты пайшоў ад мяне, бывай!

Змрочнай барвай гарыць небакрай.
Я іду па гарачым вуголлі.
Ты пайшоў ад мяне, бывай...
Сэрца сцялася вострым болем.

* * *

Калі ўзгадаеш пра мяне
халодным змрочным надвячоркам,
калі жаль сэрца скалане
і ў жылах пульс заб'е вавёркай,
прабач бязглуздасць існавання,
нястачу сіл жыццё адолець...
Былых пачуццяў — анізвання.
Навошта дзень надзею дорыць?
Стамлёнасць промнямі зямнымі
і прага холаду магілы...

Сабе шукаў ты шчасця, мілы.
Знайшоў... А я губляю сілы.
Вясны абуджанай пышнота
разгорне крылле па-над светам.
І толькі зорная самота
сягне з вышынь жальбой каметы...

* * *

Цаною стратаў і набыткаў
спасцігну формулу кахання,
крылатыя памылкі маладосці
змяню на ўпэўненасць і вопыт.
Смак вуснаў тваіх, любы мой, забыты,
і лёс пераіначыў тваю Таню...
Але я ўсё чакаю: хтосьці
мне скажа, што прыйшоў ты!

* * *

Як хутка ты забыўся пра мяне
і адпусціў на волю ў невядомасць...
Пакутуе ранімая свядомасць.
Як хутка ты забыўся пра мяне!

А часам ва ўспамінах мільганеш,
акцвеціш дзён бязважкіх нерухомасць.

Як хутка ты забыўся пра мяне
і адпусціў на волю ў невядомасць...

* * *

Не прыходзь да мяне, не прыходзь.
Сэрца поўнае смутку і болю.
Так яскрава мінулае помню!
Не прыходзь да мяне, не прыходзь.

Зазірнеш, быццам прывідны госць.
Цыгарэтны міраж у пакоі.
Не прыходзь да мяне, не прыходзь.
Сэрца поўнае смутку і болю.

* * *

Тваіх я дакрануся вуснаў
пяшчотным подыхам сваім,
і — быццам спеў анёльскіх гусляў
у чорным д'яблавым віры.

Каханне наша па-за часам,
па-за прасторай і быццём.
Дзеля таго, каб быць нам разам,
ахвяравала б я жыццём.

Бывай! Хоць слова гэта з пеклам
душу яднае назаўжды,
цябе кахаю, любы геній,
і праз нягоды, і гады.

* * *

Падманвае рэчаіснасць,
што абнадзейвае
сімваламі насуперак фактам.
Ідэалізуем каханых-ідалаў
і прыносім сябе ў ахвяру...
Малюю чорнымі — вейкі,
пунсовымі — вусны,
каб завабіць цябе
ў свой сусвет.

* * *

Фарбы, гукі, варажба...
Лічбы, знакі Задыяка...
Схопленае позіркам і сэрцам —
як сімвал...
І ты — мой Ісус,
які гіне і ўваскрасае —
дзеля мяне.

* * *

Каханне — як стрэл, расстанне — як смерць.
Купальскіх агнёў для нас няіснасць.
Міраж трансфармуецца ў рэчаіснасць.
Жыццёвых падзей кругаверць.

Твой пацалунак у сне — як мроя...
Тваіго дыхання ўяўная прысутнасць.
Ці ёсць мы без кахання? — мудрасць,
хоць іншы лёс прарочылі нам мойры*.

* * *

Прайшла праз горкае каханне.
Не перспектывы — міражы.
Вятроў самотных скавытанне.
Мой лёс — з былога мантажы.

Так рана дух упаў мой знічкай!
Нашто сусвету нараканні

* У старажытнагрэчаскай міфалогіі — багіні лёсу.

за мазахісцкі згубны звычай
светаўспрымання — па каханні?..

* * *

Шукала кветку для вянка —
знайшла ў сусвет сваё аконца.
У двор пусціла матылька
з рукі, узнесенай да сонца.

Цябе шукала і знайшла...
Няўжо і мара — быццам ява?
Ды не — ад цемры да святла
не прывядзе міраж гаркавы.

Адчай, бы шашаль, з'есць надзею,
падман каханне разаб'е.
Чаму пад сонцам — халадзею
і не магу жыць — без цябе?..

* * *

Люблю атрымліваць лісты —
як споведзь шчыра закаханых,
суладдзя душаў адчуванне.
Жыццё ў адной усмешцы — Ты.

Лісты табе шлю ў нікуды.
З табою размаўляю ў думках.
Мы разам у маіх лятунках.
Цвітуць адчайных мар сады.

* * *

Перажыві маё знікненне
з твайго пакутнага жыцця,
бо не ўваскрэснуць з небыцця.
Перажыві маё знікненне.

Шлю Богу я свае маленні,
каб даў табе моц забыцця.
Перажыві маё знікненне
з твайго пакутнага жыцця.

* * *

Як хочацца пазбыцца мітусні,
уліць спакой ва ўзрушанае сэрца!
Ды тоесны спакой уласнай смерці...
Як хочацца пазбыцца мітусні!

А пры тваёй бязлітаснай гульні
мая душа ад болю разарвецца...
Як хочацца пазбыцца мітусні,
уліць спакой ва ўзрушанае сэрца!

* * *

Памяць сэрца і памяць цела —
пакаранне на смерць прыжыццёва.
Позірк з фота — пакуты нанова:
памяць сэрца і памяць цела.

Ты мяне адпускаеш на волю,
што жахлівей, чым вязніц аковы.
Памяць сэрца і памяць цела —
пакаранне на смерць прыжыццёва.

* * *

Не сустракаліся даўно —
не марыць нам і не пакутваць.
Няўжо прывід твой у акно
зірнуў напомніць пра прысутнасць?
Я не твая ўжо. Я — з другім,
бо ты, Нарцыс, стаў сябелюбцам,
хоць быў калісьці дарагім,
але часам тым не вярнуцца.
«Бывай!» — казала сто разоў я,
ды прабачала, зараз — не.
На жаль, раскідана гняздоўе —
мы пакаралі так сябе.

## РУСАЛКА

Каскады кос і мора слёз,
і спеў прывабны і надломны.
Шмат пад вадой рыбацкіх чоўнаў —
каскады кос і мора слёз...

Праклёнам за дзявочы лёс
таму, хто здрадзіў вераломна, —
каскады кос і мора слёз,
і спеў прывабны і надломны.

## РЭХА

Рэха люстэркаў памножыць мяне.
Рэха расстання — загубіць.
Рэха кахання ўвасобіцца ў сне...
Рэха ўспаміну — мой любы.
Мне вясна будзе ўслед рагатаць
звонкім, няўрымслівым смехам.
Восень у сэрцы пачне ападаць
жаласным плачам — як здзекам.

## АДАМУ

*(па матывах сну)*

Была тваёй Ліліт...
Зямлі ў аправе акіяна

скалісты панцыр.
І мы — адны...
Душой — блізняты
да закляцця.

Была тваёй Ліліт...
На хвалях эмбрыён
свяціўся сонцаззяннем.
Мы эгаістамі былі,
і на кахання плод — праклён! —
Гасподзь наслаў наканаванне.

Празрыста-сумнай марай знік
наш плод кахання і надзеі.
Адчайным звонам плыў мінор...
І вераломны маладзік
той эмбрыён зрабіў лілеяй.
Надрыўны крык — анёлаў хор.

Была тваёй Ліліт...
Гасподзь зрабіў нас з гліны.
За роўнасць я вяла змаганне...
Вы з Еваю знайшлі,
што мы з табой згубілі, —
каханне.

## ПАРАДЫ ДЛЯ ЛІЛІТ

Чароўную, свавольную Ліліт,
Адам, ты замяніў някідкай Евай,
каб моц-уладу на зямлі
мужчына распаўсюджваў смела.

Імгненні шчасця паміраюць,
шалёнасць думак б'е ў набат:
той род адвеку вынішчаны,
жанчына дзе ўсяго — раба.

Была б Першай Маці —
паменей бы гонару,
паболей бы сціпласці Вам, каралеве!
І племя людзей пачыналася б з роўных —
з Ліліт... А не з Евы.

* * *

Кахаю, хоць мяне забыў,
спатканні нашы і мілосці,
і накованае штосьці.
Кахаю, хоць мяне забыў.

Так доўга сэнсам сэрца быў.
Хіба цябе заменіць хтосьці?

Кахаю, хоць мяне забыў,
спатканні нашы і мілосці.

* * *

Расстанне — наш апакаліпсіс.
Сустрэчы позіркаў — маланкі.
І лёсы ўжо не крыжаванкі,
а паралельна разышліся.

І колькі мы «бывай» казалі,
а зараз — слёзы-наракანні...
Неўратаванае каханне
мы ў памяць сэрца пахавалі.

## РАССТАЙНЫЯ СНЫ

Нам сны прадказвалі расстанне —
збаўленне ад фатальных бедаў,
ды нескаронае каханне
прароцтваў не хацела ведаць.

Памылкі, крыўды, горыч страт
калісь такіх ружовых замкаў!
Як быццам бы Пярун-вар'ят
у сэрцы нам шпурнуў маланкі.

* * *

Я размаўляю з табой у думках,
пішу лісты.
Душы адзіным паратункам —
ты.

Ахвяры ў марнай барацьбе
з надуманымі бедамі.
Як жыць цяпер мне без цябе —
не ведаю...

* * *

Хацелі ў рэчку трапіць двойчы —
і не ўвайшлі.
Мы — зорачкі бясконцай ночы
на зямлі.

Каханы — ненавісны вораг —
абсурд і магія.
Шлях да таго, як ты мне дораг, —
зігзагамі.

Калі ты побач быў так блізка —
не заўважала.
Ды з сэрцам вырвала нячыстым
і джала.

Ты ў памяці жывеш маёй
прывідамі.
І раніш сэрца мне журбой —
як дзідаю.

Мной кіравала тады помста —
як дзень, сляпая.
А на вачах буйнелі росы,
не высыхалі...

Вядзьмарка-ноч, адкрыўшы вочы,
забрала шанец.
Чаму ўсё, думала, аднойчы
змагу паправіць?

Чаму злучыў Бог зло памылак
з каханнем,
хоць ведаў Ён, што за злачынствам —
пакаранне —
расстанне?..

* * *

Без сэрца зганьбіла душу.
Без сэрца шчасце немагчыма...
Я на сябе штодня гляджу
тваімі любымі вачыма.

Чаму маўчыць спакойны Бог,
калі па нас званы галосяць?..
Чаму мяне ты не збярог —
не стаў маім высокім лёсам?

* * *

Забываю цябе назаўжды,
забываю цябе нарэшце
родным, каханым такім,
доўгачаканым і першым.

Забываю вуснаў цяпло,
адганяю пачуццяў зграю.
І тое, што з намі было,
што помню цябе і кахаю,
забываю...

* * *

Забудзеш наш раман,
пакутлівы ў падтэксце,
і толькі дум арда
заскача, быццам наўе.
Не дасць заснуць яна,
каб да цябе данесці,

калі мая душа
на дудачцы зайграе...

* * *

З табой сустрэча стала марай.
Замінкаў шмат, хоць ты крычы!
Магчыма, стала я пачварай
з затоенай трагедыяй душы.

Сустрэну раптам — слёзы ў неба,
імглістасць роспачы ўвачччу.
Табе сказаць мне столькі трэба!
А я маўчу...

* * *

*Так мало пройдено дорог.*
*Так много сделано ошибок.*
*С. Ясенін*

Маладосць да памылак ляцела,
як матыль да загубнае свечкі,
і душа пакідала цела
ў віражах наравістай рэчкі.

Стала іншай — хачу быць з табой,
памяняла на лета ўсе вёсны.
Сэрца глушыць гадзінніка бой:
«Паспяшай, спішыш крок — будзе позна...»

* * *

Страшэнна самотныя сны,
дзе нават сабе — чужая.
А часам — ты з дзён вясны,
і шчасце — без краю...

У снах — другое жыццё,
праўдзівае і — як мроі...
Душа ў мройных сноў небыццё
імкнецца асенняй парою.

## АКРАПРАКЛЁН

Мілы, мой боль хай патоне ў віне
І не крануся ўспамінамі вершаў...
Кінуў — і помста няхай не міне
Одумаў здрадных тваіх і паспешных.
Лашчыш жанчыну? Мне шлях твой закрыты?
А я забуду — і мы будзем квіты.

* * *

Кахала за высокія палёты,
кахала і за нізкія падзенні,
за паслягрымотныя ясноты
і за вераломныя надзеі.

І як зразумела, што няшчыры,
зрэшты, як і многія наўкола.
Дзякуй, што ты быў маёю Ліраи
і зачараваным зорным колам,
Мікола!..

* * *

Вучуся ў цябе бяспамяцтву:
забыў ты — забуду я.
Тваёй ганарлівасці кланяцца
не стане туга мая.

Чужы, а радней за родных,
і здраднік — душы абраннік...
Каханне мацней за гонар
тады, калі ёсць каханне!

## НЕАДОЛЬНАЯ МАРА

Забараню сабе спаткацца
з табой знарок ці выпадкова.
Сярод начных ілюмінацый
ствару праект жыцця нанова.

Ды буду ў лятунках цябе абдымаць,
што б зоркі для нас ні прызначылі,
тваё прамяністае сэрца трымаць
сваімі халоднымі пальцамі.

* * *

Пякла нас смага ідэалу.
Шукалі іншых для спатолі.
А зразумелі, што кахалі,
як стаў між нас праклён: «Ніколі!..»

Званіц нябесных срэбра звоніць —
кахання горкага бяссмерце.
З табою быць — пярэчыць гонар,
а без цябе сумуе сэрца.

Па нашых марах скача наўе,
пад капытом — любоўны трунак.

Мы скасавалі сваё права
на развітальны пацалунак.

* * *

Я думала, ты будзеш для мяне — усім:
каханым, мужам, сябрам, суразмоўцам...
А ты глядзеў на ўсё праз эгаізм
і шанаваў выгод мужчынскіх мноства.

І калі ў хуткім часе лёс паслаў
выпрабаванні нашаму каханню —
не раіў, а злаваўся і чакаў
памылак і фатальнага расстання.

Ты выракся мяне дзеля свабоды,
змяніў мяне на сонмішча жанчын.
І толькі песень сумныя акорды
пашлюць табе трывожны напамін.

## НАСТАЛЬГІЯ

Жывуць адчаем падсвядомым
з былога міфы-ідэалы
ў сентыментальным арэоле
калісьці спраўджаных жаданняў.

Расстанне, спроба забыцця
лятункаў нашых, іх правалаў...
І недасяжнасць пачуцця
далёкіх зорных ідэалаў.

Ты — быў.
Ты — знік.
Ты ёсць — навекі,
пакуль душа ў цялесным храме.
Хоць кінуў мяне пад крылом небяспекі,
ты пакланіся за мяне сваёй маме...

## ТЫ ПОМНІШ?..

Ты помніш сарамлівасць хваляў,
электраімпульсы між намі,
як цені дрэў вятры хісталі
і дол пад нашымі нагамі?

І, як нябёсаў блаславенне,
зіхцеў на месцы нашых стрэч
паміж асфальтам і каменнем
жоўтагаловы дзьмухавец.

Імгненнасць вечнага ў канечным,
а шчасце — не для легкадумных.

І час не лечыць, а калечыць
камедыянтаў багахульных.

* * *

Ні на што не спадзяюся.
Горкім болем — непатрэбна!
Няўжо Божа нашы душы
не звядзе пад гэтым небам?

Толькі скрушная самота
і адчужанасць без веры,
быццам мечам Ланцэлота
нас пасеклі люцыферы.

## РАССТАЙНЫ КРОК

Першы крок быў нясмелым.
Пакутным. Працяглым.
Памяць глуха стагнала
ад здрады ўначы.
І нябёсы грымелі
перуновым закляццем.
Я ад лёсава джала
нас магла ўсцерагчы.

Ты пайшоў ганарліва.
Чакаў: пабягу...
За табою — услед
закружылася лісце.
Толькі — дзіўнае дзіва! —
цяпер я магу
пасміхнуцца і ў сне
іншай радасці блізкай.
За спіною цяжар —
шок скандалаў і здрад,
хоць раней кляўся ты
мне ў адданасці вечнай...
Ты пайшоў. Мая жарсць
узняла зоркапад.
І сярод нематы —
голас твой. Небяспечны.
Заварожваюць слых
тэмбр і шчырасць твая.
Аксамітная ноч
і смяецца, і плача.
Ды расстанне спустошыла
нас абаіх.
І не ў сілах больш я,
што было, перайначыць.

## INCOGNITO

Я хацела б прыйсці незаўважна,
калі ноч Вас чаруе сном,
дзе мары лунаюць Вашы
і падаюць гулкім дажджом.
Я хацела б прыйсці невідзімкай,
каб убачыць: мяне чакалі!
Мне — катарсісам Вашы абдымкі
ў каламуці шалёных хваляў.
Я хацела б прыйсці, каб навекі...
— Ды ён здрадзіў табе, Ларэлей! —
Я бягу ад паўторнай бяспекі.
А ён ранкам растульвае вейкі:
«Дзіўны сон. Ад цябе —
толькі шлейф-згадка.
Загадка...»

## АНТЫНОМІІ КАХАННЯ

*Odi et amo.**

*Катул*

Дарунак лёсу ёсць адно
ў жыцці сапраўднае каханне.

* Ненавіджу і кахаю (з лац.).

У свет чароўнае акно
ты здрадай зачыніў так рана.

У пачуццяў анатоміі —
голыя і ў кветках вішні.
І ўзнікаюць антыноміі,
што люблю і ненавіджу.

Бачу: ты — з анёлаў сонмамі,
і — з хвастом і капытамі.
І ўзнікаюць антыноміі,
што ў маленні праклінаю.

Дысгармоній вечных гномы
навядзьмарылі расстанне.
І ўзнікаюць антыноміі,
што без веры — і чакаю!..

## ДАЛЁКІ І БЛІЗКІ

Мы самі глядзелі свой
кахання спектакль аднаактны,
дзе ты — праз мрояў сувой —
далёкі, халодны, абстрактны.

Пішу я працяг гэтай п'есы.
Нітую сустрэч шлях дыскрэтны.
Быць разам — надзею я пешчу,
мой блізкі, гарачы, канкрэтны.

* * *

Каханне ўзлёт і апагей —
за ўсё на свеце лепш.
Як здрада
болем ахіне —
жаданы
прыйдзе верш.

Што ты — агмень пакут
і вершаў дух, прабач.
Плывуць у смутку раку
вершаспеў,
вершасмех,
вершаплач...

* * *

Ратуй маю душу,
адзіны мой збавіцель,

ратуй маю душу,
не дай мне памыліцца.

Ратуй маю душу,
агонь Першакахання,
ратуй маю душу
ад крывасмокаў-зданяў.

Ратуй маю душу
ад д'ябла і спакусаў,
ратуй маю душу
ад хіжых здрадных вуснаў.

Ратуй маю душу
ад страхаў і правалаў,
ратуй маю душу,
бо веру ў ідэалы...

## ДВАЙНІКІ

Ёсць двайнікі прыродныя, не клоны...
Стае і проста падобных людзей,
якія капіруюць знешнасць, бы клоўны,
і часта — па шчырасці, без фікс-ідэй.

Ты — мой ідэал, які кахаю звыкла,
першы агонь, ахвярны самы...
Ідзе двайнік твой — мроіцца памылка:
калі падобны, значыць, такі самы.

## КАХАННЕ І СМЕРЦЬ

Наіўнай дзяўчынай хацела памерці,
каб сэрцам з табой не расстацца.
Ты быў ідэалам і звышчалавекам,
адзіны — ты! — быў маім шчасцем.

Памерла б — каханне б жыло.
Жыву я — каханне памерла.
Ты даў мне і здраду, і зло,
і ты ўкрыжаваў маю веру.

Жыву — ні з табой, ні з другім.
Ужо сто маланак у сэрцы.
Расталі ілюзіі — мройлівы дым.
Галосіць надрыўна вецер...

* * *

Не бачу я твой німб,
не бачу ў табе Бога,

як дорыш ласку ўсім
або кашчунна многім.
Кахання хочаш — што ж
не аддасі мне сэрца?..
Сячэ халодны дождж
у дысгармоніі скерца.
Усё — альбо нічога:
мне дробязяў не трэба!..
Я дапрашуся Бога
разблытаць лёсу рэбус.

## КОТКА

Ты помніш: дарыў мне каралі?..
Спелі ў голасе цёплыя ноткі.
Я ў каралях дэфілявала
з царскаю грацыяй коткі.

Прызвычаіўся. Сненне прайшло.
Ты зачаблены ў іншай цянёты.
Котка не разумела: за што
пазбаўляюць яе пяшчоты?

— Разлюбіў, — ты сказаў без адчаю. —
Нас расстанне не мінавала б...
Котка белая з блакітнымі вачамі
ля акна сядзела і чакала.

# ІМГНЕННІ СЭРЦА

* * *

Спатканне наша — зорным ранкам.
Прамень крадзецца па лазе.
Ты мне насустрач — Млечным Шляхам,
я — Месяцовым па вадзе.

* * *

За прывідным рэхам тваіх крокаў
зачыняю неахвотна дзверы.
І самой сабе ўстае папрокам
каханне, у якое прагну верыць.

* * *

Гляджу не ў неба — на зямлю.
Дождж смуткам думкі спавівае.
Прабач, што позірк твой лаўлю,
што так даверліва кахаю...

* * *

Пасля фатальнага расстання
аддамся скрушнай адзіноце.

Тады ўсвядоміш сэнс кахання,
калі на найвышэйшай ноце
з каханым развядуць варункі,
шпурнуць у розныя кірункі.

## ТАТУІРОЎКА

Нам на сустрэчу ўпала зорка.
Даўно душэўна тэт-а-тэт.
Я, ведаеш, нашу татуіроўку:
на сэрцы — твой партрэт.

* * *

Душу няхай боль не вярэдзіць:
было пакараннем расстанне.
Будзённасць знішчае паэзію,
як здрада — каханне.

## ПАЛЁТ ДУШЫ

Як стомленае цела будзе спаць,
душа Край Памяці аблётае да рання.
Падумайце: як страшна ёй лятаць
над папялішчам Першага Кахання!

## ЭПІГРАМА ПРА «АСКЕТА»

Ён называў сябе аскетам
і пакланяўся богу Дао:
штодня бландзінак і брунетак
па звычцы спрытна распранаў ён.

## НАСУПЕРАК ГАРАСКОПУ

Нам файны зорак быў прагноз.
Змаглі мы іншы сэнс укласці:
я — доўга ўз**важ**вала свой лёс,
а ты — пра***вадалеў*** шчасце...

## «РАССТРЭЛ»

Табе не дарую падманы,
узнёслых прызнанняў рулады.
Скрозь зубы я выцісну: «Здраднік!» —
і расстраляю паглядам.

* * *

Вечарамі ў пякучай журбе —
карты веерам — варажыла я...
А пасля даў адчуць: у табе
ўсё настолькі кашчунна фальшывае!..

*Памяці другога мужа І.Б.*

# РУЖОВАСЦЬ СПАДЗЯВАННЯЎ

## АКРАЛІСТ

Бачыць сэрцам, вачам не верыць,
Адчуваць дысананс слоў і праўды,
Разумець неабходнасць меры,
Крохкасць лёсу, жыцця маскараднасць.
Одум скрушнай душы парывання
Ў бездань сэрца: правал небяспечны.
Са сваім скрыжавацца каханнем,
Кінуць д'яблу — што лёс мой нявечыць.
Адпачыць?.. — Адпачнём на тым свеце:
Мусіць, пекла і рай па нас плачуць.
У пажарышча крыж свой несці,
Ведаць: трэба вось так, не інача́й.
Ерась сэрца — адсюль пакаранне.
Рэбус? Сон? Лабірынт? — Лёсу тайна.
Што сказаць, калі шмат пытанняў?..

*Таня.*

## БЕЗНАЗОЎНАЕ ПАЧУЦЦЁ

Флірт — трывіяльная любоў,
ігнараванне слоў кахання.
Так, ёсць каханне і без слоў,
як ёсць і словы — без кахання.

Спасцігнуць розумам жыццё
наўрад ці можна ў час кахання.
Мяне ж трывожыць пачуццё,
якому, бач, няма названня.

## ВАЛЯНЦІНА-ВАЛЯ

Ты доўга так хадзіў за ёй —
за чыстай, сонечнай вясной,
бо акрыляла-чаравала
Валянціна-Валя.

Ты трызніў ёй, маліўся, клікаў,
у сэрцы граў аркестр музыкаў...
Цябе ж яна не заўважала —
Валянціна-Валя.

Пра стрэчу думкаю сагрэты,
ты йшоў шмат мройных кіламетраў.

Ды замуж выйшла, не сказала
Валянціна-Валя...

## ОДА БЛАКІТНЫМ ВАЧАМ

Вочы твае — быццам тайна нябесная.
Вочы —
валошкі,
званочкі,
пралескі.
Толькі ты зняў акуляры ад сонца —
пырснула ў вочы блакіту бясконцасць.
Вочы — малітва,
вочы — прычасце,
вочы —
паветра,
і мары,
і шчасце...

# АПРАЎДАННЕ САМОТЫ

## СКРУШНАСЦЬ

Куды падзелася натхненне?
Я не адна —
адна з натоўпу.
Жыццё — нібы трызненне-сненне:
карціць на поўню выць па-воўчы.

Ці ж лёс — ад слёз сваіх памерці?
Ці несці крыж свой, як паходню?
Ці абрубіць сябе пад мерку
і не чакаць дароў Гасподніх?

Сябе згубіла? Што са мною:
чаму душа ірвецца ў неба?..
Напэўна, зноў няма настрою.
Напэўна, так яно і трэба.

* * *

З імгненнем лёс не заручай:
жарсць схлыне — будзе шмат пытанняў.

І забароненасць расстання,
як немагчымы ўяўны рай.

Сябе адчуеш у сіле́,
не вольнай — кальцаванай птушкай,
калісь прывабленай кармушкай
і марай аб сваім жытле.

Тады захоча сэрца волі,
памкнецца з клеткі да прастору.
Ды толькі не пазбегнуць болю —
душы сумленнай прыгавору.

* * *

Калі памірае Муза,
жалобу адпраў на ветах —
хай знікнуць у іншасветах
абрыўкі тваіх пакутаў.

Калі памірае Муза,
як помсту сваёй барацьбе,
за шчасце прыняўшы Яго ці Яе, —
ты выбіраеш Мужа.

* * *

Мужчына — двудушны бог:
прыгожы, пасля — пачварны,
спагадны, пасля — каварны,
быў майстар, пасля — абібок.

Ты ўжо не прыручыш рукі,
здзічэлі натхнёныя ямбы,
і чую ў адказ мацюкі
на месцы былых дыфірамбаў.

* * *

З'ясніўся першы трыялет
прароцтвам.
Аб шчасці мараў апагей —
самота.

Зацїх няверлівы бажок —
мулкасць.
Зрабіла свой паспешны крок
хуткасць.

У адчаі — зла разбег —
дэкадэнты...

За акном стагоддзя грэх —
тэмпы.

* * *

Згадаю, як сцішу адчай:
прыгожая, кажуць, жанчына.
За мой белакветкавы май
змагалася многа мужчынаў.

Паверыла словам тваім,
а радасць ты бачыш у гвалце...
Развеецца з'едлівы дым,
як наша прывіднае шчасце.

* * *

Як развенчваеш куміра —
гэта быццам крах імперый.
Спрахне чар мінулай веры,
як развенчваеш куміра.

Стану лекарам-факірам,
каб прайсці праз лёсу церні...
Як развенчваеш куміра —
гэта быццам крах імперый.

## МІСТЫЧНЫ ТРЫЛЕР

Ты — з выкрутасамі бой-фрэнд.
Штодня жахлівей нашы былі.
Хацела бачыць звычны хэпі-энд,
ды атрымаўся ў нас містычны трылер.

Трагі-цыркавое шоу —
дзень пры дні, без перапынку.
Вось ён, час, і надышоў —
час расплаты за памылкі.

* * *

З асобы ў рэч пераўтварэнне —
закон адвечны для жанчын.
Так вабяць воля і спачын!
І дзе былое азарэнне?..
З асобы ў рэч пераўтварэнне.

## КЛЕАПАТРА І ЕФРАСІННЯ

Дзівосы сінема
гартаюць свае кадры.
Магчыма, я была
калісьці Клеапатрай.

Ды радасць пачуцця
губляе чар вяргіняў.
Цяпер мой лад жыцця —
цнатліўка Ефрасіння.

## БЫТ

*Вузка! Цесна! Мала!*
*Цётка*

У рамках быту —
вузка, цесна, мала! —
няма паветра і пачуццяў шалу...
Шляхі закрыты
душаў развіццю
і паўнакроўнаму жыццю.

## МОЙ ЛЁС

Закрэсліваю
сонечнасць надзеяў,
хаця пра светлае —
адвечная мальба...
Зноў —
павуцінне шэрае падзеяў.
Мой лёс —
самота й барацьба.

Сыдзі,
кахання горкі одум!
Самота да адчаю —
як Рэмарк.
Са змрокам б'ецца за свабоду
і шчасце
амазонка Жанна д'Арк!

## МЕТАМАРФОЗЫ

*(мужчынскія маскі-шоу)*

Перавяліся б на свеце прынцы,
калі б не іх рамантычныя прынцыпы —
да вяселля... А потым —
эгаізм стане мужавай модай.

# ІЕРОГЛІФЫ З-ПАД ПАДУШКІ

## *(Плён адной бяссоннай ночы)*

* * *

Шампанскае кавай прагнала.
Натхненне адкуль узялося?
Настолькі з бяссоннем зжылося —
да ранку амаль даканала.

* * *

Думку — з галавы далоў —
крэслю на паперы белай.
Яна ж, быццам куранё,
стрымгалоў кудысь пабегла.

* * *

Я вырасла з твайго кахання,
а ты рассыпаўся на мак.
Раней ты быў мне, як маяк,
цяпер — архіўнае чытанне.

* * *

Закончана аб'ёмістая праца,
а плён счыхаўся ўвокамігі.
Ты — як прачытаная кніга,
да якой не хочацца вяртацца.

* * *

Прарочыш: захлынуся горам я,
калі зляціш з маёй зямлі.
Я ж адкажу з трывожным гонарам
звышлаканічнае: «Калі...».

* * *

Як сэрца адолее стынь —
ты станеш не творам, а фразай.
І воблака белым Пегасам
сарвецца ў азёрную сінь...

* * *

Не ведаю, ці плакаць, ці смяяцца:
абодвум патрэба
зямлі, а не неба,
не месяца — месца,
не сэрца, а сервісу...

# ЭКЗІСТЭНЦЫЯ

* * *

Злавесны год, пракляты год
накаркаў воран.
І беласнежны Новы год
стаўся чорным.

Прынесла ява шмат няшчасцяў —
могілкі ілюзій.
Як п'янства стала тваёй страсцю,
тваёй Музай?

Сышлі на сонечнасць надзей
зласлоўяў хмары.
Закрэсліў змрочны чарадзей
нашы мары.

І вечнасці кругазварот —
сузор'е Задыяка
пусціла ў гібельны палёт
зорку Рака...

* * *

Цяпер, у прадонні адчаю,
нічога ўжо не прыкмячаю.
Як пераЖыць благое сёння
і заўтра ўбачыць за акном мне?
Баюся спаць, твой дух чакаю
апакаліпсічнымі начамі.
А зморыць сон — бачу: у сне ты,
як быццам Дух Містычнай Мэты.
Даруй за ўсё, я ж — ратавала
цябе ад страшнага фіналу.
«Зямлі — пуховай, душы — рай, —
малюся, — Ванечка, бывай...»

* * *

За што такое пакаранне —
твая знявага, твая смерць?
Ці будзе сонечнасць адхлання,
ці ў вырай душ з табой ляцець?

Няўжо так моцна награшыла
душа падчас рэінкарнацый?
Якая зможа цяпер сіла
мой дух узняць з нямых прастрацый?

Дзень прайшоў, чарговы дзень —
палыновая эсенцыя.
Не жыву, а берагу агмень
экзістэнцыі.

## УДАВА

***(паводле перказанай размовы)***

На дрэве голым — зыркіх ягад гронка —
надзеі незнішчальнай росчыркам.
«Якая ў яго сімпатычная жонка!..» —
Як светлая зайздрасць... нябожчыку.

## ПАЗАЛЁСАВАСЦЬ

* * *

Студзеньскія маразы
растапілі маё сэрца,
бо твае касмічныя вочы —
мой любімы сусвет.
Час і прастора ўзводзяць
сцяну паміж намі.
Але маё сэрца ўпартай кветкай
прабіваецца да цябе.
Гэта кветка папараці.
Яна расцвіла аднойчы,
калі сонца-вяшчун
стала ў зеніце маіх вачэй,
і я зразумела,
што без цябе я — нябожчыца.
Але ты знік у цемры
мянезабыцця...
Ці было ў цябе права мець
такія вочы, постаць, голас?..
Навошта апаліў душу
закаханым позіркам?
Ці ведаў ты, якая

невычарпальная слодыч
у маіх пакутах?
...Боль, які спараджае шчасце.
...Успамін, які спараджае існасць.
...Расстанне, якое спараджае
Вечнае Зліццё.

## МУЖЧЫНА З ГІТАРАЙ

Аднойчы збылася дзівосная мара,
што я пакахала мужчыну з гітарай.
Разумны, прыгожы, як мой ідэал,
нібы Апалон, ён іграў і спяваў.

Рай музыкі сэрца звярэдзіў ушчэнт,
чароўным быў голас яго і партрэт.
Расстанне было найпачварнейшай карай.
Навошта сустрэла мужчыну з гітарай?!.

## ПОШУКІ СУСТРЭЧЫ

### *1. Карпаты*

Анёлаў хор спяваў псалмы.
Вядзьмаркі шабаш свой спраўлялі.
У дзень той скрыжавалі мы
свае узрокі, пакахалі.

Карпацкіх гор манументальнасць
з зямлі да неба шлях вяла.
О, Вельзевула абаяльнасць, —
душу табе я аддала!

Не, ты зусім не Мефістофель —
мой ідэал, маё жыццё!
І фотаздымка мілы профіль
маё катуе пачуццё.

## 2. *Санкт-Пецярбург — Пулкава*

Туманны горад на Няве
выстукваў дажджавое скерца,
калі шукала тут сябе,
шукала згубленае сэрца.

Ні Эрмітажа свецкі глянц,
з фантанамі палац Пятровы
не паспрыялі здзейсніць шанц
спаткання двойчы ракавога.

...Жалезныя птушкі ўзляталі,
быў ты ў гэтым кожным крыжы.

І боль апагеем адчаю
мне кінуў у вочы дажджы...

### 3. Мінск

Вакзальны Мінск сустрэў мяне
шчымліва-родным краявідам.
Чакала я, пакуль мільгне
ў аконным шкле мой хмурны выгляд.

І невідушча ззялі вочы:
Карпаты, і са мною — ты...
І наша сонца — поўня ночы...
І — жах пякельнай немаYou.

Не можам страце мы скарыцца,
чакае нас працяг быцця.
Расстанне будзе, як крыніца
адроджанага пачуцця.

* * *

Каханне з першага узроку —
цнатлівы водар кветкі-руты.
Няма прывабнейшай атруты —
кахання з першага узроку.

Я пахаваю ў сэрца змроку
тугу па мілым і пакуту.
Каханне з першага узроку —
цнатлівы водар кветкі-руты.

* * *

З павекаў сноў дзіўных заслону
сагнаў стрэл адчыненых дзвераў
дрымотнага царства балкона
пад лямант шалёнага ветру.

Фіранкі хвост лёгкі, дрыготкі
нястомна імкнуўся да столі.
Я стала здзіўлёная, што ты
раптоўна з'явіўся ў пакоі.

Я ж помню: не быў тут ні разу,
не ведаеш, што я кахаю,
а мо — у вачах ты заўважыў
маю неўтаймоўную мару?

...Кахання пяшчотная песня
да рання, да першых пеўняў...
Я — вуснаў тваіх хваляванне,
мой любы, маё натхненне!

* * *

Да мяне прыляціш уначы
феерверкам кахання-бяссонку,
і пакліча мяне гарачынь
тваіх вуснаў на жоўтую зорку.

Будзеш лашчыць спякотным агнём,
патану я ў вачах тваіх, любы.
Толькі ў сэрцы нявердівы гном
праскрыпіць: «Ты ў яго — для загубы».

Мо спяшае так ранне ўзляцець,
каб зляknuць цябе сонцам-шаманам?..
Бляклых прывідаў шэпча бясследная смерць,
што ты быў толькі сном і падманам...

* * *

Што нас звязвае з табою:
мо — пяшчота слоў?
Мо — усмешка пры размове,
сэрцаў перазвон?

Мо — нярозгад таямніцаў,
радасць пры спатканні?

Можа — шчырасці крыніца,
мо — каханне?

* * *

Ад пакутаў сваіх не бягу.
Гэта значыць: душою аголена.
Сваім лёсам — абсурд! — задаволена,
хоць цябе зваяваць не магу.

Маё цела дзяўбуць груганы,
а душа спачывае між хмараў...
І блукаюць прывіды адны
на курганах зняважаных мараў.

Змрочных дзён і начэй фаварыты
спапяляць з майго сэрца падманы.
З таго свету прыйшоў ка мне ў сны ты,
мной чароўна сустрэты каханы.

* * *

Не верыла ва ўваскрашэнне я,
але раптоўна ўсё змянілася:
шматпромневай вясеннясцю
мне здань твая з'явілася.

Твой воблік, голас, мной загублены,
калі ты жыў мінулы раз...
Мы міражом сустрэчы ўзрушаны —
спыніўся вечны вершнік-час.

Застыг бязважкі мройны вакуум —
і рай кахання на зямлі.
Нас прывітае сонца знакамі,
пусціўшы ўроссып прамяні.

## ТЫ — БОГ МОЙ...

Доўгацерпную смагу спаталю́,
зазірнуўшы ў вочы твае.
З цнатлівых вуснаў сап'ю малітву.
Ты — Бог мой.
Скалоўшыся на лязе жыцця,
я ўбачыла твой спачувальны позірк,
і ты падаў мне руку...
Надзеяй усміхнулася вясёлкавасць вачэй:
дождж і сонца.
Ты — Бог мой.
І я малюся...

* * *

Як сэрца кіне. галасіць
сваім перадапошнім вершам,
са мною папрашу пабыць
цябе апошні раз ці першы.

Калі пілі спатканняў мёд,
п'янкі, нібыта мае мроі,
я і не думала: ці ўзлёт
надзей ты дорыш, ці прадонне.

Я сэрца кінула на лёд —
яно і там палала жарсцю.
У сне іду на эшафот —
і галаву сякуць напасці.

Такая я, што сэрца ўмесціць
сусвету радасць, смутак, боль.
Малю пяшчоты чалавечай,
хоць кроплю шчырасці — тваёй.

* * *

Калі мяне пакінуў ты
і прэч пайшоў без даравання,

да сэрца прыкіпеў інстынкт
*самазахавання.*

Перад сябрамі ты чарніў
маё бязгрэшнае сумленне.
Я ледзь стрымала свой парыў
*самазнішчэння.*

Сваю чуллівую душу,
што прагнула пазбыцца болю,
я зацкавала на мяжу
*самакантролю.*

За ўсё жыццё зрабіла шмат
недаравальных, дзёрзкіх глупстваў.
Штодзень сябе ратую я
*ад самагубства.*

* * *

Навошта гэтае спатканне?
У сэрцы горыч — не каханне.
Навошта гэты голас, вусны,
пагляд магічны і спакусны?..
Навошта ўсмешка ў крохкім сне?
Ты — ёсць...
Але — не для мяне...

# СТОМЛЕНАСЦЬ СЭРЦА

Тваімі вачмі глядзяць калы,
як я распрануся павольна
і кінуся ў ложкаву бездань,
каб бачыць нябёсы ад сноў.
І толькі ўспаміны гаркава
стралой праляцяць мімаволі.
І болей не хочацца ведаць,
што буду самотнаю зноў.

Як цяжка з мінулым расстацца —
жыццё маё там, боль і мары!..
Я — толькі прывід між рэалій,
што ўскрос з летаргічнага сну.
Прабач, я не ўмею смяяцца:
мой смех — быццам слёзы з-пад хмары.
І толькі як звыкла тыраняць
пачуццяў свет фальш і прымус!

Стамілася з нечым змагацца.
Стамілася верыць у шчасце.
Стамілася словам кахання
насустрач душу раскрываць.
А можа і так зноўку стацца:
я ў картах паблытаю масці,

сустрэча пяройдзе ў расстанне...
Няма чаго болей чакаць!

## РАССТАЙНЫ БОЛЬ

Самотна стаюся ў цішы.
Тужлівы бляск вокнаў вячэрніх.
Цяпер не сустрэчы — крыжы...
Ні нас, ні імгненняў не вернеш.

Шчымлівай мелодыі гранне:
акорд — як усплёск прыгажосці...
Наколькі балюча расстанне,
калі пакахаеш кагосьці!

* * *

*Я вас люблю (к чему лукавить?),*
*Но я другому отдана;*
*И буду век ему верна.*
*А. С. Пушкін*

Спаткання раптоўнага сфінксы
здзівілі спакой піраміды.
У мрой чарадзейныя іксы
Амур запусціў стрэлы-дзіды.

Няўрымслівы Госпада геній
стварыў цуд кахання спакусны.
І двое — Таццяна, Яўгеній —
у вузел сплялі свае вусны.

І, быццам чар змоўшчыцаў-фей,
па нас — меч ваіцельнай Нікі...
І ты — златавусны Арфей,
а я — любай цень — Эўрыдыка.

Спеў лебедзя з болем надрыўным —
апошні, бо ў сэрцайку — дзіда.
Я ў сонцы спалю свае крылы,
цябе ж — мкне Харон да Аіда.

І Леты збагнелая бездань
крывавы напой прыгубіла.
Згарыць хай пад Зеўсавым жэзлам
усё, што наш рай загубіла!

## ДОН ЖУАН

Дон Жуан мясцовы —
маска Дон Кіхота,
позірк Іеговы,
з мечам Ланцэлота.

Дон Жуан мясцовы —
ён кахаў... Фіяска!
Растаптаў нервова,
што купіў ёй, краскі.

Дон Жуан мясцовы —
змеіць помста вочы.
Дзіды-стрэлы — бровы
працінаюць ночы.

Дон Жуан мясцовы —
вусікаў спакуснасць
прыхавае лоўка
скепсіс хіжых вуснаў.

Дон Жуан мясцовы —
гвалт, мана і жорсткасць.
Смертаносны словы,
фраз гульня-акторка.

Дон Жуан мясцовы
вычварае розум —
усчынае ловы
змей спеўнагалосы.

Дон Жуан мясцовы —
ас хітраспляценняў —
пернікам мядовым
цягне ў сваю келлю...

Дон Жуан мясцовы —
рыцар зла і гора,
чуеш жах лядовы —
крокі Камандора?..

* * *

Кахаю цябе... — Банальна.
Ты ўзводзіш між нас бар'еры.
Я — сінтэз Мінервы-Венеры,
як еднасць фрагментаў каралёў.

Не знішчыць табе маю памяць,
як мне не ўцячы ад пакутаў.
Да іх сваім сэрцам прыкута —
яны раем страчаным вабяць.

Бягу — не раблю ані кроку.
Мне вочы твае — як аазіс.

Я твой найшчаслівейшы казус.
Наш лёс — скрыжаванне прароцтваў.

Тваіх неакрэсленасць мараў.
Шабаш маіх зблытаных думак.
Вар'яцтва — адзіны ратунак
ці спаленасць крылаў Ікара.

Хай знічкі каменнем застыгнуць,
як слёзы кахаючых катаў.
І чорныя дзіры — у датах.
І мроі ў канвульсіях гінуць...

* * *

Ты імкнешся акрэсліць выпадак
і канкрэтнасцю фарбаў — прывіды.
Пакараеш прысненыя здрады
і пасееш бязвер'е і крыўды.

Задзярэш нос — свой песціш ты гонар.
Зробіш боль, каб прасіць даравання.
А «кахаю» тваё — гвалт і горыч,
як мана дзеля выратавання.

* * *

Калі душу апаліць жарсць
на злосць былой адчайнай сцюжы,
кранецца сэрца благадаць —
крышталь слязы блакітнай ружы.

Фантомы слоў губляюць важкасць
у вабнай бездані вачэй.
Міраж лятункаў сэрца засціць,
і явы сімвалы ярчэй.

Прывіды страчаных ілюзій
віюцца ў небе кажанамі.
Магчыма, болей мы не будзем
узгадваць, што было між намі...

## ЦЕНІ

Твой пацалунак — маё адраджэнне,
ды замінаюць мінулага цені.

Ты зазямляеш мае летуценні —
глебу рыхтуюць цені сумнення.

Моўлю, як Фауст: «Спыніся, імгненне!»
З жарсцю спляліся нашыя цені.

Нашых надзей ад праблем амярцвенне...
Цені навокала... Цені... Цені...

* * *

Закахаўся і пакляўся
быць са мной.
Смех нябёсаў захістаўся
над зямлёй.

Бо яна прамільгнула —
далёкая,
як сястра Вельзевула —
з сурокамі.

Хто вас лёсам звязаў —
не раздзерці,
каб з бядой векаваў
ты да смерці?

Не кахала — дражніла,
смяялася.
Над табой варажыла —
што сталася!..

Ноч агорне ўспамін
недарэчнасцю.
...Мы свой лёс не знайшлі
перад Вечнасцю.

* * *

Адчаю кола разарваў...
Ды голас твой — у шэпце лісця:
«Прабач, цябе я не кахаў...
Прабач, я толькі захапіўся...»

Мой голас, здушаны, дрыжаў,
мозг сутаргава прагнуў выйсця.
Ды чула зноў: «Я не кахаў...
Прабач, я толькі захапіўся...»

Боль Бога ў сведкі заклікаў,
патоп дажджу з нябёсаў ліўся.
А ты маўчаў... «Я не кахаў...
Прабач, я толькі захапіўся...»

Бог мой! За што пакуты даў?
Ці доўга аб жыццё мне біцца?
Прысуд мне — словы: «Не кахаў...
Прабач, я толькі захапіўся...»

* * *

Не ўчула жорсткасці ў мілосці,
аддала сэрца на распяцце.
Раскрыжавана маё шчасце,
а на цябе не маю злосці.

Свядомасць шырыцца з гадамі.
Мудрэе стомленае сэрца.
Боль успамінам адзавецца
і кане ў Лету са слязамі.

* * *

Чаму, як памірае дзень,
я клічу ў сны каханне-згубу,
хоць вінаваты яго цень
за мной цягаецца прыблудна?

Чаму, як каралева-ноч
вянок сузор'яў прымярае,
прымрою тых, што гнала з воч,
каго я жартам чаравала?

Аднойчы немаўлятка-ранне
мой зрок палярна пераверне...
Спазнаю чыстае каханне
таго, хто веру ў шчасце верне.

## ФОТАМАДЭЛЬ

Ашалеў з пачуццём тым глыбокім.
Як матыль, быў крылатым парыў.
І прымружваў натхнёнае вока
закаханы ў Яе аб'ектыў.

## СОНЕЧНАСЦЬ

Аднойчы вачэй затрымала праменні,
І мне цалавала пяшчотна душу
сонечнае зацьменне.

Тады быў вясны іскрамётны пачатак,
і Ён у аўтобусе мне пасылаў
сонечны зайчык.

Глядзеў запытальна вясёлкаю воч...
І ўслед трыумфальнай усмешкі —
сонечны дождж!..

## ПРЫШЭЛЕЦ СА СНОЎ

Сэрца ў чарапахавым панцыры.
Пярліны вачэй — у ракушках.
Клюшнямі змагаюся з шанцамі —
спакусамі ў вабных стужках.

Дрэва маёй самоты
точыць адчаю шашаль.
Стой, незнаёмец, хто ты?..
Прышэлец са сноў, няйначай.

## YOU*

I like to look into your eyes
And see your wonder-soul.
There is contradiction of feeling and mind,
When I stay alone.

And I am sad, that my light spring
Is early going out.
But deep in heart I always bring
Pipe-dreams and hope — about
You...

---

* Падрадковы пераклад аўтара (з англ.)

### ТЫ

Я люблю глядзець у твае вочы
і бачыць тваю цудоўную душу.
Пачуцці супярэчаць думкам,
калі я застаюся адна.

І ■ сумная, што мая светлая вясна
рана адыходзіць.
Але ў глыбіні сэрца я заўсёды нясу
нязбытныя мары і надзею —
на цябе...

## МАНАЛОГ ЗАКАХАНАЙ

Інтуіцыя падманула:
закахалася — не ўзаемна!
У вачах тваіх патанула
і згубіла спакой вокамгненна.
Дэманічны, таемны і смелы.
Прыцягненне — стыхіям на зайздрасць...
Ды чамусьці палохае вернасць
тых, хто хоча прыгод, каб здрадзіць
сваёй мары пра цуд кахання,
пра дзяцей ад прыгожай жонкі.
Толькі воля — чароўная манія —
вабіць да донжуанскай гонкі.
Як ідзеш праз паглядаў Галгофу?
Няўжо лёс мой — табе толькі цацка?
Быццам вы згаварыліся з Богам
над бядою маёй пасмяяцца.

## ТЫ СНІШСЯ МНЕ...

Ты снішся мне. Так часта, так упарта.
І твой пагляд услед — сіло.
І думаю: «Як ты цяпер?..» Хаця — нявaрта,
бо не сабе належым мы даўно.

Ты снішся — і душа мая смяецца,
і клічуць вочы ў мройлівай сяўбе.
І тут маё — тваё пытае сэрца:
«Ці снюся я — табе?..»

## ПАЭТУ...

Як сімвал лёсу нескаронасці,
быць разам — у думках! — шукаю прычыны:
жыць у Вашай скептычнай свядомасці
фантомам каханай жанчыны.

## ДА ЗАКАХАНАЙ У ГРЭШНІКА

Ці можа закаханая душа
падлічваць з калькулятарам выгоды?
Ляцець ёй да фатальнага крыжа
ўсё бліжай год ад году.

І не даруе стогалосы свет
таму, хто награшыў і паплаціўся.
Усе цураюцца ад бед —
і смельчакі, і баязліўцы.

Ратуюць цела ад смерці,
душу — ад згрызотаў сумлення.

І сажы з душы не адцерці,
і выраджаецца племя.

Мы — малпы ў раскошных убраннях,
скамп'ютэраваныя нехрысці.
Прасветлае стала каханне
праклёнам і тлом, а не вечнасцю.

* * *

З'явіўся нечаканым азарэннем,
як «промень сонца ў цёмным царстве»*, —
падманным, страшным летуценнем
майго з'ільдзелага вар'яцтва.

Кахання водбліск? Геній смерці?
Выратавальнік ці забойца?
З табою так утульна сэрцу
і цемру разганяе сонца.

Узняць над галавой імгненне,
без думак — «лёс» ці «перспектыва»,
жыць сэрцам непаразумнелым
і варажыць: «Буду шчаслівай?..»

* Словы М. А. Дабралюбава.

Як матылёк да згубнай свечкі,
ляцець — памылка за памылкай...
Або ў самоту зноў залегчы,
бо да яе даўно прывыкла!

## АЛХІМІЯ КАХАННЯ

*(санетны трыпціх)*

*1*

Аднойчы шугавейны студзень
мне праскуголіў праз сцяну,
што позірк твой мяне абудзіць
ад летаргічнага сну.

Пасля бяссонкавых сумненняў —
ты лёс ці выпадковасць? —
сярод маіх душазацьменняў
вачэй тваіх лунае зорнасць.

Што можа быць мне даражэй
за рай абдымкаў, пацалункаў?
І што быць можа прыгажэй
за ўзлёт акрыленых лятункаў?

Давай паслухаем свае жаданні:
мы падуладныя алхіміі кахання.

*2*

Да зор нас вабіў ідэал.
Фартуна лёс снавала.
Ты некага кахаў...
І я — кахала.

Будзь блаславёны дзіўны час,
калі цябе спаткала,
бо дзён, што аб'ядналі нас,
здаецца мала.

Так цьмяна прышласці вуаль:
тут варажы — не варажы...
Знайсці, што ўсё жыццё шукаў,
патрэбна для душы.

Гасподзь! Што мне наканавана:
мілосці шал ці ў сэрцы рана?

*3*

Лёсу нашага траекторыя
такая часам нечаканая:

мы ўчора незнаёмыя,
а сёння — закаханыя.

Дамы і дрэвы. Снегу бель.
Гляджу зачаравана.
І сонца ў гэты яркі дзень
смяецца шчасцядайна.

Нашто аб будучым загадваць,
калі цяпер — царыца крозаў?
Паэзіяй спявае замець,
змятае дум трывожных прозу.

Я мару, на спатканне ідучы, —
прачнуцца на тваім плячы...

* * *

Вадаспадам пушчу валасы,
нас ізноў зачаруе ноч.
Я вуснамі самну гусарскія вусы
і патану ў азёрах воч.

Хай ізноў выпрабоўваюць жарсці.
Хай анёлы спяваюць псалмы.

Так, як вернікі йдуць да прычасця,
палам цел прычашчаемся мы.

І згарыць у агні грэх сардэчны,
Бог даруе, бо раіў любіць.
Двух сэрцаў страх спрадвечны —
імгненняў шчасця не згубіць...

## ЛІСТ ДА КАХАНАГА

Прашу, мой любы чалавек,
мяне не крыўдзіць, не падманваць,
бо слёзы не абсохлыя з павек,
і боль памылак яшчэ раніць памяць.

Калі я толькі для гульні
або другая будзе мілай,
то лепей зараз пекла слоў шпурні,
чым апасля — заклён магільны.

Хай веюць перамен вятры...
Мне скарбы шчырасці дары —
не многа трэба мне для шчасця.

Не ўзводзь сваіх пясчаных замкаў —
пустых не трэба абяцанкаў,
каб веры сэрца не праклясці.

## ЭЛЕГІЧНЫ ДВУВЕРШ

Страсць авалодала целам, сэрца кахае трывожна:
раптам мой любы давер мой растопча і мары зняславіць?

* * *

Звіняць між сцішаных прысад
асколкі дум і летуценняў.
А помніш, як ты мне казаў:
«Люблю тебя, Петра творенье»*?..

Былі пяшчота, цеплыня
і вера ў непадманнасць мрояў...
І вось цяпер, на схіле дня,
каханне звёз Харонаў човен.

Пякучасць легкаважкіх слоў
давер у сэрцы забівала...
Як горка, бо самота зноў
мяне так хутка напаткала.

* * *

Самыя выкшталцоныя
і пяшчотныя донжуаны —
жанчынаненавіснікі...

---

* Радок А.С. Пушкіна.

*Я жить хочу, чтоб мыслить и страдать.*
*А. С. Пушкін*

# МАЛАНКАВЫ БОЛЬ

## ПТУШКА НАДЗЕІ

Душа счарсцвела ад пакутаў...
Спагадным словам загаю
боль сэрца, у адчай закуты.
З вязніцы птушачку сваю —
надзею — выпушчу на волю:
ляці, лунай, спявай, свішчы...
Хай загамоніць наваколле
дзівоснай песняй у душы.

## МІСТЫЧНЫ СОН

Клубы
святла ад лямпы
чапляюць чорныя плямы
стракатых старонак падручніка.
Са стрэлам крылаў, вусцішна
лятуць пачвары

з бульдожым тварам
пішчом мне ў вочы
гарой-навалай.
Ад жаху шпарка
мільгаюць пяткі.
Балкон мне насцеж
разявіў зяпу.
А ўнізе — ты дарма чакаеш.
Балкон — надвое, —
лячу я ўдалеч.
Зямля магнітам
не цягне цела.
Бывай, мой любы,
я паляцела!..

* * *

Мы прапускаем навакольны свет праз сябе,
як шкло прапускае сонечныя промні,
як сіта — ваду,
як расчыненае акно — паветра.
Я і ёсць тое сонечнае шкло,
што зіхаціць адбіткам вялікага свяціла.
Я — сіта,
што працярушвае праз сябе радасць і гора.

Я — тое расчыненае акно
ў неспазнаны мною свет,
што хавае ў сабе мільёны таямніцаў...
Але ж нейкая частка свету
прысутнічае і ўва мне.
З прагным неспатольным эгаізмам
хаваю і затрымліваю яе ў сабе —
як шкло затрымлівае сонечнае цяпло і бляск,
сіта — камяні,
расчыненае акно — свежы подых
вясенняй раніцы.

* * *

Панарама ўспамінаў
на чыстым экране душы.
Там суіснуюць боль і радасць,
невыносныя пакуты
і імгненнае прасвятленне,
беспраглядны адчай
і кульгавая надзея
на выратаванне...
Стракатыя вобразы —
прыемныя і жахлівыя,
пяшчотныя і пачварныя —
з маланкавай хуткасцю змяняюцца.

Калейдаскоп уражанняў.
Метамарфозы пачуццяў.
Правал у вусціш вар'яцтва.
Палёт у бездань займае дух.
Не жах, а цікаўнасць да смерці.
Жаданне смерці...
І ўдзячнасць за мінулае.
Богу. Лёсу. Сабе.
І тым, хто разам са мной
ствараў маю біяграфію.

* * *

Да сонца, зораў і да хмар
душа імкне, як тая песня.
І ад штодзённых марных спраў
да мар бягу, каб не памерці.
Праменні сонца — праявіцель
грахоў людскіх і бруду дум.
А цемень ночы — як збавіцель:
у снах зляціць мой дзённы сум.
...Бягуць гады, і я зусім не тая
вясёлая дзяўчынка гаманкая.
Няхай і так — з вачэй заслона ўпала:
за яснасць вока плата — боль
у сэрцы, што не сціхне больш,
як бы душа аб шчасці ні крычала.

* * *

Крыжаванкі
і лабірынты
магчымых
і абраных шляхоў —
заблытаны рэбус
чалавечага лёсу,
які разблытае
толькі смерць.

* * *

Адчуць працягласць часу — жах,
жах незваротнасці імгненняў.
Ніколі не пускаць карэнняў,
каб не балюча вырываць,
як пакахаеш недарэчна.

І недарэмна жыў, калі
памрэш з такім усведамленнем,
што для адзінага імгнення
кахання — варта па зямлі
ў бадзяннях церці мазалі.

* * *

Бегчы, бегчы, бегчы, бегчы!..
Хоць куды, абы шукаць.

Ды няма спакою ў рэчах —
будзе мой цярністым шлях.

Сэрца поўнае журботы,
што не знікне ў чорным сне.
І не збегчы ад самоты,
як не збегчы ад сябе...

* * *

Гойдаюцца думкі
на вецці ўспамінаў.
На галаву мне падаюць
пераспелыя яблыкі
недаравальных памылак.

* * *

Дваццатае стагоддзе — два іксы.
Дзе душ — не інтэлекту! — талент?..
Упэўнена: каханне ў Вечнасць кане,
і знікнуць яго песень галасы.

Час рамантызму сцёрты рэалізмам.
Глянц розуму зацьміў шчымлівасць пачуцця.
У модзе не прызнанні, а сафізмы —
забаламучваць яснасць маскамі быцця.

Мана і скепсіс спапяляюць шчырасць.
Закон «купі-прадай» мацней за голас сэрца.
Бог мой, дай веру ў явы прышласць,
якая ў нас каханнем адгукнецца.

* * *

Вяртанне ў пыл памылак.
Вяртанне для адчаю.
Фата-маргана — прышласць.
Пачуццяў попел маю.

Згарэла краска веры,
прыгожая, як мара,
у полымі даверу,
праз хітрасці пачвары.

Я — ружа, што шыпамі
свой крохкі лёс бароніць.
Я — рукапіс, што памяць
нашчадкаў непакоіць.

Жыццё — як помста смерці.
Каханне — выклік Музе.
Палац пясчаны — сэрца.
Жахлівых думак вузел.

Самота — вынік здрады.
І споведзь — не катарсіс.
Не трэба бруду праўды!
Я — жрыца бога Марса!

Чаму за мізэр Сонца
збіваю думкі ў раны?
Чаму ў шляху бясконцым
шмат церняў уваброна?..

* * *

Сталее позірк з фотаздымкаў,
усмешка — быццам з-пад нажа.
Хімер жахлівыя абдымкі,
цяжар пакутнага крыжа.

Са мной у сонмішчы падзей
з дылемай існавання Гамлет.
Таюся ад людзей, надзей,
Манон перастварыўшы ў Скарлет.

## РАЙ І ПЕКЛА

*1*

Як сціснe сэрца боль-адчай
і слёзы ў горле стануць каменем,

Твой голас — мне выратаваннем:
«Спачатку — пекла,
потым — рай».

У чорных хмарах небакрай.
Вядуць душу на катаванне...
Чыёйсьці злосці баляванне.
Спачатку — пекла,
потым — рай.

2

Каб збіць ружовасць спадзяванняў,
жанчынам лёс учыніць здзекі:
ва ўсёй красе вам дасць каханы
спачатку — рай,
а потым — пекла!..

* * *

Я — гэта сонмішча катаклізмаў,
што ў вар'яцкім натоўпе
рэжа свае вены...
Я — трапяткая адчайная знічка,
якая марыць стаць Галактыкай,
але ўсе высілкі марныя...
Я — тая спакусная бязгрэшнасць,
якая ва ўсяленскім граху

пачувае сябе закамплексавана...
Дэкаданс і дэпрэсія...
Апакаліпсіс і расчараванне...
Самота і безвыходнасць...

* * *

*Жыццё — гэта сон.*
*Кальдэрон*

Жыццё — нібы прарочы сон,
а смерць — як быццам абуджэнне.
Жахлівы суд — мой прышлы скон.
Хімеры — мары-летуценні.

Памылак жах сціскае крылы.
Прывіды душаць па начах.
Крывавы крыж на небасхіле
і боль маланкавы ў вачах...

## АПАКАЛІПСІС: ЗЫХОД XX СТАГОДДЗЯ

Палілі ідалаў, тапталі ідэалы.
Ішлі па сэрцах, марах напралом.
Святыні люта нішчылі вандалы.
І паміраў царкоўны гулкі звон.

Што будзе? Божухна, памілуй!
Няўжо настаў Жахлівы Суд?

Пякельны баль нячыстай сілы:
навокал — гвалт,
і бруд,
і блуд!

Няўжо — фінал? Няўжо — кананне?
Няўжо з нябёс ліецца кроў?
Дзе ратавальнае Каханне?
...Бездапаможная Любоў?..

## ПРАЗ ПАКУТЫ — ДА МЭТЫ

*Per aspera ad astra.**

Калі душу катуюць пеклам
звышчалавечае пакуты
і давялося раптам зведаць
гаркоту здрады любых вуснаў,
я пальцы прыкладу да скроняў —
стрымаць пульсацый звар'яцеласць.
Пайшла б за Клайдам вернай Боні
на смерць, але не на адлегласць.
Пясчынкай упаду ў бясконцасць,
у створкі Памяці Сусвету.
Калісьці зазззяе Жамчужнае Сонца —
маёй да Мроі, да Сэнсу Мэты.

* Праз церні да зор (з лац.).

## АКРАЭЛЕГІЯ

Адлегласць душ народзіць смутак,
Дыханне дам хімерам-ценям.

Філосаф і філолаг скуты
І суіснуюць непадзельна.
Лавіруе-віруе сэрца,
Але чамусьці так самотна!
Лядок лятункаў дакранецца,
Атруту — пі! — падасць маркота.
Гармоній недасяжнасць — позна! —
Ірве істоту на шматочкі.
Надрыўна плачуць вербалозы,
І сны мне шле Касандра-ночка.

## ПЛЫНЬ СВЯДОМАСЦІ

Каханне.
Фобія.
Манія.
Вар'яцтва.
Блуканне.
Люстэркаў галерэя.
Надзея
без надзеі — я.

Сама ў сабе,
як сэнс у форме.
У норме
і не ў норме.
Шукаю.
Філасофствую.
Баюся,
што некалі
ў люстэрку
не з'яўлюся.

* * *

Са шклінак не складу вітраж,
люстэрка б'ецца на няшчасце.
Чаму ж мінулага міраж
залевай вочы мае засціць?

І сэрца гімн не шле вясне,
не спараджае летуценняў.
Што зробіш, бо цяпер мяне
натхняе змрочны чорны геній.

Як паўцякаюць з лёсу відмы
маёй світальнаю парой,
суквецце мараў стане німбам
над галавой.

## ПАВОДЛЕ ГАРАСКОПА

На шалях Немезіды Вечнасць спала.
Свіннёй ружоваю зарохкаў новы дзень.
Самотны клён люляў у голлі памяць,
і бэз на дол клаў адмысловы цень.
Хірон з Венерай у экстазе зліты.
І дождж крывавых ружаў сыпле Марс.
Фантазіяй з хвастом метэарыта
імчыцца думка. І шалее час.
Шпурнуць Хаос у плынь метамарфозаў
параіла відушчая Змяя.
Агню і прыгажосці, веры ў крозы
Бог даў — заззяла Зорачка мая:
з фантазіяй гуллівай маўрытанкі
і з песняю чароўнай Ларэлей,
з сакральнымі пасьянсамі цыганкі,
з магічнымі парадамі ад фей.

## СЛЁЗЫ

Асколкі сноў разбітых
не склеіць слоў падман.
Вуаллю брыльянцістай
на вочы лёг туман.

Нявечны ўсплёск пачуццяў
над безданню самоты.
Душэўнай каламуці
прарэзлівыя ноты.

І чорны смутак сэрца
дажджом пральецца золкім,
ды сонца абаўецца
вакол вачэй вясёлкай.

* * *

Дзе ты, Жанчына? — Не багіня...
У адрас твой — шмат наракanняў.
І з-за цябе, чый гонар гіне,
ні войн, ні спрэчак не ўзнікае.

Парыс — Алена — Менелай —
траянская вайна амбіцый...
Жанчына вартая пахвал,
каб перад ёй схіляўся рыцар.

* * *

Ноч звязвае душу з Космасам.
Сон запрашае

на сакрэтны прагляд кінафільма,
дзе ў бязлікім натоўпе
я знікаю і знаходжу сябе —
асобу, страчаную і набытую.
Адвечны сон.
Пошукі сустрэчы.
З сабой.

* * *

Лёс — барацьба, каханне, праўда.
Лёс — паэтычны мікракосм.
Шляхоў шматлікая аркада
ў душы суцэльны парадокс.

Бязвер'е знішчана пяшчотай,
і роснасць воч не з гора — шчасце!
І філасофская самота
сама сябе дае праклясці.

Прадажны юдаў пацалункі,
ахвяраў слёзы — ім экстаз.
І кармаў зорныя рахункі
калісьці ўсіх рассудзяць нас...

* * *

Каханай быць і жыць — адно.
Напэўна, я адна такая.
Я ні на што не наракаю,
хаця і шчасця не відно.

У шчырасць веру безаглядна
і здрады болей не дарую.
Самотай раны зарубцую,
што для душы не будзе танна.

Давер з бязвер'ем рвуць на часткі,
ды пераважвае апошні.
Міжволі будзеш асцярожнай,
каб не патрапіць зноў у пасткі.

## ФІЛАСОФІЯ МРОІ

Калейдаскоп шалёных дзён —
малюнкаў лёсу кругаверць.
А я, каб ад жыцця быў плён,
вучуся падаць і мудрэць.

Я ствараю халодную зброю,
каб у свеце вайны не прапасці:

замест мрой — філасофію мроі,
замест зор — філасофію шчасця...

* * *

Пра нешта адмоўнае кажуць:
«Брыдота.
Цвіль.
Павуцінне.
Балота...»
Цвіль —
дае пеніцылін,
лечыць запаленне.
У балоце —
прыгажосць:
там цвіце лілея.
А павук, хоць крыважэрца, —
знае ткацкае майстэрства.

* * *

Зняверылася ў роздумах сваіх,
крытычны стан шукае дапамогі.
І я звярнулася да кніг,
каб вырашыць гнятлівыя трывогі.

«Трагедыі лірычны эпілог» —
так Пысін Аляксей дае прагнозы.
Ён фразай страх мой перамог...
Што ж дзень наступны наваражыць?

## ЧАЛАВЕК — ЧАЛАВЕКУ...

*(размова з класікамі: спроба аплікацыі)*

Homo homini lupus est *—
чалавек чалавеку воўк...
І адзін аднога з'есць,
калі ў сэрцах іх «666»
і суцэльны жахлівы змрок.

Homo homini amicus est —
чалавек чалавеку сябар...
Прыгажосць ці ўратуе свет**
ад дысгармоніяў бед
і зайздрасці жабаў?

---

* Плаўт.
** Паводле думкі Ф. Дастаеўскага.

Homo homini Deus est *—
чалавек чалавеку — Бог.
Абсалют. Ідэал. Паэт.
Бо імкнецца да мрой і мэт.
Бо «мы разам ляцім да зор»**!

* * *

Знайду філасофскі камень —
і здабуду я золата.
Ды нашто яно мне,
на душы калі — холадна?

Жыццёвы эліксір знайду,
як маладосць прывабную,
і да цябе тады прыйду,
адзіны і сапраўдны мой!

Замовы ў неба я шапчу,
а Бог глядзіць насмешліва:
— Суцешся, — роспач уваччу.
Каханне ўсё ж нявечнае...

* Статый.
** М. Багдановіч.

## КАРДЫЯГРАМА ЛЁСУ

Зашыфраванага лёсу
кардыяграма скача.
З нябёсаў кахання — вобзем.
І трэба падняцца. Без плачу.

І трэба ўзняцца на крылах.
І трэба ляцець Ікарам
у боскі містычны вырай,
да найярчэйшай мары.

Кахання няма — крах свету,
патопленая Атлантыда.
І толькі галосіць вецер
над скрушнай маёй планідай.

## ДУША АДЛЯЦІЦЬ У ВЕРШЫ

Кругалётнасць звычайных падзеяў
прабіваецца росквітам думкі.
Імпульсіўная Адысея —
у прасторы і часе стасункаў.

Час знайду. Дзе энергія духу,
для якой дае сілы каханне?

Пуста ў сэрцы. Манаршая скруха
над натхненнем маім тыраніць.

Ці ствару я Жыцця Свайго Песню?
Траплю ў Кнігу Жывых ці Памершых?
Богу лёс разгарну перад смерцю —
і душа адляціць... у Вершы!

* * *

*Каб я мела...*

*К. Буйло*

*Дубль — мадэль, дакладная копія свайго творцы, якая выконвае пэўныя функцыі.*

*Паводле А., Б. Стругацкіх*

Каб я мела пару дубляў —
і жыцця магло б хапіць,
каб не страціць шмат задумаў,
мары ўсе ажыццявіць.

Каб я мела пару крылаў
ды не знала стомы —
я б спявала ўзнёслай Лірай
над смяротнай стромай.

## ВАЗА

Я — ваза, у якую хтосьці
шпурнуў камень
з драпежнай злосцю.

Чарапкамі ўпала гліпянае цела,
ды птушка душы
адлятаць не хацела.

Я п'ю сонца, неба, паветра і вецер —
хаця б дзень пражыць мне
ў расколатым свеце!

Друз чарапкоў збіраю і склейваю...
І аўру святла
пакрысе выпраменьваю.

У вазе вадзіца — гаючаю песняй.
Чакайце хвілінку —
я зноў уваскрэсну!

* * *

Калі мой сон закружыць бель
віроў жыццёвых і завеяў —
душа скіруецца ў тунель
да іншых зор і вымярэнняў.

Як згорне сноў кінасеанс
Хаос — ці Бог, а можа — Д'ябал,
каб сябрам стаў няўмольны час,
у снах падтэкст шукаю тайны.

Мой сон — як псіхатэрапеўт,
дарадчык, сябра і мастак.
І кат, што прынясе білет
на той свет,
не падаўшы перад тым знак...

## РОЛЯ ЖАНЧЫНЫ Ў ГІСТОРЫІ ФІЛАСОФІІ

*(суперміністэкцыя)*

Падумайце,
магло не быць Сакрата,
філосафа на ўзроўні архетыпа,
каб не яго выпрабавальны фатум —
гром-баба і натхняльніца Ксанціпа!

* * *

Ты не хочаш жыць у самоце,
марыш, каб на вершы натхнялі.
Не жадаеш жыць у балоце —
дык жыві на вулкане!

Быць з мужчынам — небяспечна,
прысвячаючы лёс — міражу.
Не дай Божа быць з тым вечна,
хто нявечыць душу.

* * *

Жыць бясконца?..
Прайсці праз любові,
праз жаданне
быць кімсьці
бязмежна каханай,
праз секунды спакою,
інерцыю болю
і радасць вітаць
пасля ночы ранне.

Што — Вечнасць?
Вершы для кагосьці —
душы спажытак,
скарбы думак, —
мой сын
і дар міласці,
што дазваляюць верыць
у ратунак.

Грашым штодня,
памылкі множым,
а Бог пасля ўдвая карае.
І хто з нас, грэшных,
пасля зможа
ўвайсці ў вароты раю?..

* * *

Калі імкнуся збегчы ад пакут,
на ногі Бог накідвае мне путы.
Магчыма, прыхаваны шчасця кут
сярод такіх раз'ятраных пакутаў.

Ці любіць Бог таго, каго карае,
каму ён шле свае выпрабаванні?
Не ведаю, але надзею маю —
на шчасце, і на плён, і на каханне!

* * *

Вярнуцца б
ад сябе трыццацігадовай-разумнай —
да сябе дваццацігадовай-наіўнай,
каб зрабіць папраўку ў лёсе,
каб пазбегнуць памылак!..
Але жыццё — адно.

Час незваротны.
І толькі набытая мудрасць —
як ода пражытым гадам.

* * *

Маё жыццё — раман,
які мне толькі сніцца.
Маё жыццё — падман:
магла не нарадзіцца...

Маё жыццё — агонь,
запалены для шчасця.
Маё жыццё — гармонія...
Дай Бог яе пабачыць!

* * *

Пакуль жыву, я так хачу
смак шчасця зведаць!
Каб сонца зорыла ўваччу
пад светлым небам.

А як згарыць душа датла,
спачну я вечным сном.
На грудзі ляжа мне зямля
пад цяжкім валуном.

# ЧАМУ?..

Чаму: у адных —
шчасце без цяжкасцей,
а да другіх —
злыбеды лашчацца?
Мой рамантызм
рэалізмам забіты,
Ружы ілюзій
слязамі абмыты.

Шукала сапраўднасць —
знаходзіла цені.
Шукала я выйсце —
знаходзіла сцены.
Шукала я выспу —
бязмежнае мора.
Шукала я шчасце —
знаходзіла гора.

# САКРЭТЫ ТВОРЧАСЦІ

* * *

Маё нованароджанае вершаня!
Я люблю цябе, але ты мне больш не належыш.
Ты цяпер жывеш уласным жыццём
і ўжо не такое мне блізкае, як тады,
калі насіла цябе пад сваім сэрцам,
карміла малаком са сваіх грудзей,
люляла, песціла-гадавала.
Ты выйшла ў свет і амаль забылася на мяне.
Цябе чытаюць, і рэдка хто ўзгадвае аўтара...
Цяпер я — толькі першапрычына,
адбітак былых пачуццяў
на разбітым шкле слоў...

* * *

Кахаеш — будзеш малады.
Надзею маеш — не загінеш.
Свае пражытыя гады
да зораў думкаю ты ўзнімеш.

Калі спакой лепш за гарэнне,
чысцюткасць лепш за бруд граху,

то не чароўна-дзёрзкі пэндзаль
тады натхніць тваю руку.

Штукарства горш за ўсе абразы.
Фальш масказ выклікае смех.
І выкшталцонасць танных фраз
бяздушны прашчінае свет.

* * *

Верце таму, што напіша паэт,
хоць яго зрок ілюзорны.
Вершы ўплятае ў вянок свой, бы зоры...
Верце таму, што напіша паэт.

Шчасця не меў, ды стварыў трыялет.
Светлы даў спеў, свой схаваў смутак чорны.
Верце таму, што напіша паэт,
хоць яго зрок ілюзорны.

* * *

Пра тое, што не здзейснена,
пра тое, што не сказана,
пра тое, што не створана,
дарэмна шкадаваць.

А што чароўнай песняю
душы адкрыла вязніцу,
натхніла сэрца зорамі —
так люба ўспамінаць!

* * *

Паэту дазваляецца грашыць
у пошуках кахання і натхнення
і бачыць рэчы ў іншых вымярэннях.
Паэту дазваляецца грашыць.

І кожны грэх яго перагарыць,
бо творчасць яму дорыць ачышчэнне.
Паэту дазваляецца грашыць
у пошуках кахання і натхнення.

## СЮРРЭАЛІСТЫЧНЫ ВЕРШ

Між сном і явай — хісткі мост.
Лаўлю гатовую ўцячы ідэю-чарадзею
за хвост.

Мне белы ліст падкажа фразы,
карціны мрояў і прарочых сненняў —
як адказы.

Я расшыфрую повязь знакаў, а найперш — пішу крыху нязвычны, сюррэалістычны верш.

## ПАЭТ І ПАЭТЭСА

Паэт і паэтэса — два натхненні:
рамантыка, узнёсласць і парыў.
Паэт і паэтэса — два памкненні
раскласці свой аб'ект на сотні рыс.

Паэт і паэтэса — два каханні:
фантазій, безразважнасцей усплёск.
Паэт і паэтэса — два ваганні,
расчараванні, слёзы, горкі лёс...

Паэт і паэтэса — два вулканы:
каханне-жарсць, і лава аж кіпіць.
Паэт і паэтэса — акіяны...
Адзін аднога ім не пераплыць.

## МАЯ СУТНАСЦЬ

Цяпер я лёгка дам агню
лісты і фота, дзённік, вершы,

каб іх спакою не крануў,
цікаўны дух злавесны нечы.

Не мару, ілюзій не ўзводжу,
прадбачу часовага згубнасць.
Пакіну некалькі адбожжаў —
вершаў, што праявяць маю сутнасць.

## МУЗА

Муза-жанчына,
Муза-святая
цяжкім бяссоннем
верш прадыктуе.
Тая,
што рай на зямлі абяцае, —
выльле пакутнасць
у споведзь жывую.

Муза — натхняльніца
і ратаванне,
прывід жаночага цуд-ідэалу,
вобраз яшчэ
не сустрэтай каханай,
той,
што на грэшнай зямлі акрыляе.

## БОСКІЯ ПАРАДЫ

Самоту ˊсабой засланіў.
Ад сонца аслеплі крыжы.
Спытаў: «Ты — мая?.. Не мані!»
І Бог мне параіў: «Кажы».

І дні ў матыльковасці мрой —
ці хоць у прадонне імчы...
Бог гладзіў мне голаў рукой
і ў горы суцешыў: «Маўчы...»

Адна я... Вясёлыя чэрці.
І зябкая золь на душы...
«Мой Божа, пазбегчы як смерці?»
Ён мне пасміхнуўся: «Пішы...»

## ГАБЕЛЕН ДУШЫ

Я выпушчу на волю
свой крык — на сто вятроў.
Катастрафічнасць болю
ў страфічнасці радкоў.

Я з паэтычнай амфары
ашчадна адалью

чароўную метафару,
ёй смагу наталю.

Мой лёс! Вядзі, ды не карай,
агменю веры не тушы.
І зрэдку мне дапамагай
ткаць габелен маёй душы.

## НАРКАМАНУ АД ПАЭЗІІ

Паэт, ты — д'ябал ці анёл?
Кахаеш ці расчараваўся?
Якую ты іграеш роль
пад шквал надуманых авацый?

Ад цыгарэты і віна
ты не адмовішся ніколі.
Як п'еш — заўсёды дап'яна.
Маральна б'еш — ажно да болю.

З дваццатай мо ці з сотай Евай
зрываеш ты спакусы яблык.
Дзеля кайфовага натхнення
прадаць душу гатовы д'яблу.

# КРЭДА

*(брахікалан)*

Я
тут
для
пакут.
Маю
чары.
Мэта —
мары.
Вершам
хачу
ўвечніць
душу.

# ЭПІГРАМА НА ПАЭТАЎ

*Паэты — непрызнаныя*
*заканадаўцы свету.*
*П.Б. Шэлі*

Упэўненыя, што яны — заканадаўцы свету,
мужчыны, што завуць сябе паэтамі,
у фарсах тэкстаў граюць — смехата! —

Дон-Кіхота,
Дон-Жуана
і Хрыста.

* * *

Вавілонскае стаўпатварэнне
спарадзіла шмат моў.
Але і ў межах нацыі
кожны гаворыць qui pro quo*.
Ды прыслухоўваюцца да нямногіх.
І помняць з паэтаў — адзінак.
Астатнія — удзельнікі
банальнага кругазвароту
вобразаў у Паэзіясферы...

* * *

Словы — болевыя кропкі
на маім чуллівым целе.
Дум прыгожыя акорды —
трыялетнае мысленне.

* Хто пра што (з лац.).

Калі стварае Муза тэксты,
то абмінае словаў рыфы.
Калі іду я ўслед за сэнсам,
амаль не думаю пра рыфмы.

## ВІНО СЭНСУ

Наш паэт
над творам варожыць,
падуладны фармальным міфам,
гоніць вершы
ў пракрустава ложа
рыфмаў.
І, раўнуючы думак звон,
аўтар часта ідэю бэсціць,
забываючы пра віно
сэнсу.

* * *

Зліцця гармоній зорных акт.
Мелодый аўры ловяць вушы,
калі выходзяць на кантакт
паэтаў непрыкаяныя душы.

* * *

Паэт
на касмічныя рытмы
накладвае словы,
якія пасля
збываюцца...

* * *

Ужо колькі стагоддзяў,
натхнёныя, у адзіноце,
адкрываюць іншасветы
паэты...

* * *

Дасягнуць дасканаласці
дапаможа
дысцыпліна думкі.

# ФОРМУЛЫ БЫЦЦЯ

## ФОРМУЛА ПРЫГАЖОСЦІ*

Калі лёс сэрца не ламаў,
не рагатаў з яго аскепкаў,
не будзеш ты ў душы паэткай,
калі лёс сэрца не ламаў.

І чары мрояў не аквецяць,
і прыгажосць твая — падман,
калі лёс сэрца не ламаў,
не рагатаў з яго аскепкаў.

* Пераклад на англійскую мову аўтара.

A FORMULA OF BEAUTY

If fortune didn't break your heart
and didn't laugh at its small slices —
you wouldn't be a poetess inside,
if fortune didn't break your heart.

And all charms wouldn't go in signs,
your beauty is illusive art,
if fortune didn't break your heart
and didn't laugh at its small slices.

## ФОРМУЛА КАХАННЯ

Чар слоў і магія позірку —
рэцэпт узнікнення кахання.
Вар'яцтва маланак распаляць
чар слоў і магія позірку.

Імкнуцца ўгару — і вобзем.
І розум губляць дазвання...
Чар слоў і магія позірку —
рэцэпт узнікнення кахання.

## АПРАЎДАННЕ ПАКУТАЎ

Калі ля вуснаў пах цыкуты
і немагчыма болей жыць,
шапчу: «Не радасць, а пакуты
стаюцца скарбамі душы».

## ФОРМУЛА НАТХНЕННЯ

Натхненне — шчодры геній,
плод страснага кахання,
дарунак плённага чакання —
натхненне, шчодры геній.

Разгоніць Муза змрок зацьменняў
і будзе мрояў чараванне.

Натхненне — шчодры геній,
плод страснага кахання.

## ФОРМУЛА КАМПЕНСАЦЫІ

Задумваюся аб прызванні,
і сэрца вярэдзіць дакука.
Відаць, што не маю кахання,
мяне палюбіла навука.

## ВЫБАР СУЧАСНАЙ ЖАНЧЫНЫ

Узяць каго ў мужы —
падкажа выбар мода:
два сэрцы, дзве душы —
Нарцыс і Квазімода.

Для сённяшніх Марысь
двайная тут выгода:
лепш — Ракфелер-Нарцыс,
чым жабрак-Квазімода.

## БУДЗЬ!..

*(самарэфлексія)*

Разгубленую, цябе калышуць хвалі
па-над жыццёвым павуціннем.

Хочаш, каб лёс табе паламалі, —
будзь наіўнай!

Наканаванняў снуецца ніць,
час надзеі зневажае шпарка.
Каб кахаць і каханай быць —
будзь вядзьмаркай!

Калі ж ад здрадаў ягоных цяжка
і вабіць душэўны спакой,
ты раіш сабе: «Будзь манашкай!
Будзь святой!»

## ФОРМУЛА ПРЫВАБНАСЦІ

Як застацца беладоннай*,
захаваць кахання кветкі? —
Быць ільдзінкай, а не промнем,
быць зімою, а не летам,
быць далёкай, а не блізкай,
зоркай быць, а не зямлёю,
з сэрцам паэтычна-чыстым,
каб ты марыў быць са мною!

* Прыгожая дама (з італ.)

## ФОРМУЛА ВЕРЫ

*(верш-аўтатрэнінг)*

Ад адчаю — да надзеі,
як «dum spiro, spero»*.
Я ў сябе ізноў паверу,
каб прагнаць хімераў.

Ён прыйдзе, узлёт веснавы!
Свядомасць прыўздыме Быццё!
Пакуль чалавек жывы,
яму падуладнае ўсё!

## ФОРМУЛА ПОШУКУ

Закон ёсць прыроды і racio,
і сутнасць яго такая:
знаходзіць сама інфармацыя
таго, хто яе шукае.

Зляціць гармідарнасць падзеяў,
і толькі падчас медытацыяў
з'ясняецца, як азарэнне,
патрэбная інфармацыя.

* Пакуль дыхаю, спадзяюся (з лац.).

## НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ ЗДРАДЫ

Дзяўчо! Май гонар і свабоду,
і хай мазгі не п'яніць жарсць!
Мужчына — ён такі ад роду —
аднойчы здрадзіць і прадасць.

## ФОРМУЛА ПРАСВЯТЛЕННЯ

Свае хвалістыя валасы
па плячах распускаю ракой.
Хай спяваюць вятроў галасы
пра прываблівы хатні спакой.

Забываю турботы дня.
Усміхаюся: ззяюць мары.
І за сонечны далягляд
уцякаюць панурыя хмары.

# ЗОРНЫ ПЫЛ

* * *

Пранікненне ў дух абстракцый,
паралель асацыяцый,
зорны пыл і сэрца боль —
лёсу змрочнага сымболь.

* * *

Шмат сваіх душ самазабойцаў,
хто прагне славы і кар'еры.
Але не здолее забіць Сальеры
таго, у кім схаваны Моцарт.

* * *

Шукала свой шлях у мастацтве.
Знайшла, для здароўя не лепшы:
мяне ў маім ціхім вар'яцтве
мае праследуюць вершы.

* * *

Жыццё сваё
я ўзважваю
на шалях,
каб вынесці
бязрадасны прысуд:
жыццё —
не одаў ідэальнасць:
камедыя,
трагедыя,
абсурд.

* * *

Парадокс светаўспрымання:
імгненне жыць —
і верыць,
што ў запасе вечнасць...

* * *

Сярод маіх жывых святынь —
табу на помслівае слова:
з жахлівых каб не ўскрос глыбінь
прывід... І не зрабіў благога.

# ДЖАКОНДА XXI СТАГОДДЗЯ

Красуня, фарбай, парфумай задужа
аздобленая, плюс шыкоўныя транты —
падобна на штучную ружу,
апырсканую дэзадарантам.

* * *

Калі я страчу вышыню,
ушчэнт аб яву разаб'юся —
таму я ўдзячна буду дню,
калі на свет ізноў з'яўлюся.

# ЛІСТАПАД

*(казка для дарослых)*

Гаворыш, казачку спавесці?
Дык слухай: у дрымучым лесе
жыў-быў магутны Дуб-асілак
між хвой старых, малых асінак.
І за сваю адметнасць гэту
глядзеўся ён, як цар сусвету.
На Дубе тым жылі каханкі —
лісточкі Шапатун, Шлясцянка.
Раз Шапатун прамовіў звонка:
— Шлясцянка будзе мая жонка! —
Ад слоў такіх яна аж млела...
Ды хутка лета праляцела.
Стаў Шапатун глядзець налева —
шукаць другую каралеву.
Нявечна шчасце ў гэтым свеце...
Шлясцянцы хочацца памерці.
Вось Лістапад прыйшоў нарэшце.
Жыццё мінае ў непрыкмеццi.
З тугі Шлясцянка пачарнела...
Тут хмары, вецер наляцелі —
нясуць Шлясцянку ў бездань часу.

Пакуль сканаць, кружляе ў вальсе.
Маўчыць лістота ў лесе хмурным.
Шлясцянка — галаском хаўтурным:
— Ты, Шапатун, жывеш навошта?
— Жыву, каб адчуваць прыгоства,
згараць датла ў агні кахання,
бо ўжо з нялюбаю расстанне
мне сэрца болем не кранае!.. —
Над ім навісла кропляў зграя.
— Ратуйце!.. — крыкнуў ён зніцяйкі
і ўніз зляцеў — да ног Шлясцянкі.
Вятры каханкам праспявалі,
каб тыя ўжо не гаравалі,
знайшлі каб шчасце, дабрабыт.
Ды хто памылкамі не біт?..
Шлясцянка, Шапатун і сёння
мілуюцца на рая ўлонні,
ні крыўд не помнячы, ні сварьі...
Ды сонца ім не лашчыць твары.
...Маркотны, золкі Лістапад!
Здалося мне, што брат твой быццам —
кароткіх чалавечых жыццяў
бесперапынны Жыццяпад.

На гэтым казцы час спыніцца —
няхай вам іншая сасніцца.

# 3. BELLA-РУСЬ



*Ibi bene, ubi patria**.

# КЛЮЧ ДУХОЎНАГА АДКРЫЦЦЯ

## МОЙ КРАЮ...

**(спроба гімна)**

У сіні азёраў, у цені лясоў
мая Беларусь, у зялёным убранні
дуброў кучаравых, і з рыкам зуброў,
з трaскучым над хатай буслоў клекатаннем.

Гартаю старонкі мінуўшчыны слаўнай:
Літоўскае княства... Скарына... Гусоўскі...
Імклівай Пагоні я чую дыханне.
І кліча да волі народ Каліноўскі.

Мой краю, заўсёды ты ў сэрцах нашчадкаў,
ты ў сонечных промнях, такі малады.
У свеце паданняў ты — быццам загадка.
Ты, папараць-кветка, на свет узыдзі!

Дарогі ў рамонкі, валошкі ўвабраны.
І гонар табою пульсуе ў крыві:

* Там добра, дзе радзіма (з лац.).

ты вольны, мой краю, багаты і слаўны.
У міры і ў шчасці заўсёды жыві!

* * *

Бабуля мне пашыла кілімок
з тканін вясёлых і шматкаляровых.
Бабуля адышла ў далёкую дарогу,
але той кілімок мне — як браток.

Прабач мне, даражэнькая, за ўсё,
бо я была дзяўчом непаслухмяным...
Прыходзь ізноў: так хочацца мне з рання
твой твар з усмешкай бачыць, збіўшы сон!

## ПАМЯЦІ ІОСІФА СКУРКО

Скурко Іосіф... Спадчына жывая
асацыяцый мноства абуджае:
«Бацькоўскі парог» і «Весніцы»* песні,
і сонечны спеў жаўрука напрадвесні,
палон блакітных воч-віроў
і «полымя ружовых верасоў»**...

* Назвы паэтычных кніг І. Скурко.
** Радок з верша гэтага аўтара.

* * *

Любімая, мілая мама —
святло на пачатку тунеля,
крыніца майго нараджэння —
любімая, мілая мама!

Нясу праз жыццёвую драму
твой вобраз і клопат прыемны.
Любімая, мілая мама —
адзіны так блізкі мне геній!

## НА ДЗЯДЫ

На Дзяды разгарну радавод,
запалю памінальную свечку —
і паўстане радні карагод,
як бясконцы мой шлях у Вечнасць.

Я шукаю свой сэнс быцця,
часам мроіцца сон пра бяссмерце.
Адчуваю: пазбегнуць канца —
даць жыццё сваім дзецям.

## ПАЭТЫЧНАЯ АРЫФМЕТЫКА ВАКОЛ РБ

Лагічны ланцуг мой у чымсьці наіўны:
мужчына —
жанчына —
краіна.

З метафарай, словамі гульні —
**Р**ыгор **Б**арадулін.
Разважліва-страсная мова —
**Р**аіса **Б**аравікова.
А еднасць гэтых імёнаў — плюс! —
раўняецца Сучасная
Паэтычная **Р**эспубліка **Б**еларусь.

* * *

Дык чаму ж нашу Русь лічаць Белаю?
Што не мелі татарскага хана?
Што народ валасы мае светлыя?
Прынялі што хрышчэнне — рана?

Я тлумачу ўсё гэта іначай,
бо натхніла мяне думка Божая:
Bella-Русь паспрабуй перайначыць
з італьянскае bella — прыгожая!

## ГОРАД І ВЁСКА

У дзяцінстве, калі надакучвала мне
гарадскіх пейзажаў абяскрыленасць,
адкрывала свой лясны сакрэт
летняя вясковая ідылія.

Гараджанка ў першым пакаленні,
я адчула сэнс іх розных мрой:

і жывой, натуральнай — вясковай,
і стандартнай — тэхна-гарадской.

Горад мне бліжэй, што ні кажы...
Велічны, каменны, змрочны волат!
Тут прастор для стомленай душы.
Тут жытло. І Радзіма. І доля.

## ENGLISH*

*(acrostic)*

**E**nglish became a ray of light.
**N**ow sun and son are sense of life.
**G**od, keep me from vital finish!
**L**ead me to sky, let fly be high! —
**I**n order to be, but not to make image.
**S**omebody then will say: «She had liked
**H**er native Byelorussian and English...»

* Падрадковы пераклад аўтара (з англ.).

**АНГЛІЙСКАЯ МОВА**

Англійская мова стала промнем святла.
Цяпер сонца і сын — сэнс майго жыцця.
Божа, барані мяне ад смерці!
Вядзі мяне да нябёсаў, хай палёт будзе высокім! —
дзеля таго, каб быць, а не здавацца!
Нехта пасля скажа: «Яна любіла
сваю родную беларускую і англійскую мовы...»

* * *

Нас трымае радзіма за памяць,
бо ўспамінаў з душы не сцерці:
дзе пражыў ты дзяцінства, юнацтва —
там захочаш пасля і памерці.

Тут злыбеды і радасць бацькоў.
Тут смяецца маё дзіця.
І да роднага краю любоў —
ключ духоўнага адкрыцця.

## ДЫПТЫХ СТАСУНКАЎ

*1*

Малюю вакол сябе
магічнае кола.
Не чапайце мяне, людзі!
Я маю права на самоту.

*2*

Ствараю вакол сябе
энергетычна-флюіднае,
электрамагнітнае
поле прыцягнення.

Людзі! Я — да вас!
Пагаварыць...

## УНУТРАНЫ МАНАЛОГ

Ціхая?.. Глядзі, цябе затопчуць
тыя, хто ідуць царом з аркестрам.
Лёсу памажы злыбеды скончыць,
светлае заняць пад Сонцам месца.

Гора абламала крылы?.. Веру.
Ты цяпер штодня баішся смерці.
Канец свету? Людзі азвярэлі?
Дзе ты будзеш тое шчасце мець?

Ты жывеш, скажы?.. І дзякуй Богу.
Сын расце і быць з ім разам просіць.
Вер у Цуд: твой фантазійны Логас
свет явы зруйнаванай уваскросіць!

## МАЛІТВА РАТАВАННЯ ДУШЫ

*Памяці Яўгеніі Янішчыц*

Гасподзь! Прабач ёй дзёрзкі смутак,
душы яе дазволь узняцца ў рай,

а грэх біблейскі — самагубства —
не гонарам, а болем вымярай!..

* * *

На бацькавай магіле
на вянку жалобным
шэранькая птушка
гняздзечка звіла.

* * *

Бацька памёр.
Свет навокал крышыцца.
Стаю сярод развалін...

## МАМА

*(газель)*

*Маёй маці Зінаідзе Мікалаеўне*

Самае цёплае слова на свеце — мама.
Добрай усмешкай заўсёды прывеціць мама.
Мы ўсё жыццё для яе толькі дзеці.
Хоча за нас беды лёсавы несці мама.
Я так люблю цябе, чуеш мяне ты,
самая мілая, родная ў свеце мама?!.

## НЕПАЗБЕЖНАСЦЬ ВЯРТАННЯ

Мо дзесьці лепш, дзе нас няма.
Мо дзесьці мяса кус тлусцейшы.
Але чужыны свет — турма.
Душы — прастор радзімы лепшы!

Красой замежнай вабяць Рым,
Нью-Йорк, Варшава ці Афіны.
А над айчынай — светлы німб,
і сэрцу тут спакой адзіны.

Хай сто дарог наканавана,
але дамоў заўжды вярнуся,
бо я да роднай Беларусі
пупавінай прывязана.

# МАЦЯРЫНСТВА

*Сыну Андрэю*

* * *

Душа ўзлятае да нябёсаў,
памылак спальвае шмаццё...
Пад сэрцам, як дарунак лёсу,
свавольнае, варушыцца жыццё.

Імкнецца лёсу проціставіць
сваё няўрымслівае «я»...
Сівая памяць ліхаманіць,
каб промнем апладнілася зямля.

## НАРАДЖЭННЕ

У гэты дзень пакуты, шчасце
вузлом звязаліся навек,
каб з іншасвету і бясчасся
з'явіўся новы чалавек.

Балюча мне было раджаць...
А ў небе сонца так іграла!
Стагнала цела, а душа
спакойна збоку назірала.

## КАРМЛЕННЕ

Мне роцік маленькі, прагны
прыемна казыча грудзі...
Дзіцяці з маці яднанне —
святыня ў сусветным брудзе.

## МАДОННА

Глядзіш з іконаў з дзіцем на руках —
гвалтоўнаму сусвету процівага.
І першы крок, і сонных вей узмах
сыноўніх ахінае Твая ўвага.

Пад кожны ўдар Ты свой падставіш боль,
замест яго Ты прымеш і атруту,
знявагу і варожую любоў,
бо нарадзіла Сына для пакутаў.

* * *

Боль выспявае, здрадаю апалены,
і толькі сын — дарунак долі.
Хай словы могуць быць банальнымі,
любоў — ніколі.

## НОЧ

У вялікі ложак спаць паклаўся свет.
Ён схаваў пад коўдрай
нейкі свой сакрэт.

Ноч у зорнай высі —
над калыскай маці,
што асцерагае ціхі сон дзіцяці.

* * *

Сцелецца сінхронна дням-гадам
жыццезабіральная дарога.
Я нікому сына не аддам —
ні вайне, ні Богу.

* * *

Мой сын! Калі нават я знікну —
назаўсёды сыду ў небыццё,
ды, як трэба, — злячу я знічкай
і ўратую тваё жыццё!..

Буду ў небе спяваць малітву,
каб цябе зберагала заўжды,
каб меў Бог да цябе літасць
і каб не дапускаў бяды.

# 4. ПУНСОВЫЯ РАБІНАВЫЯ ГРОНКІ



*На рабінах — чырвоны агонь.*
*Гэта гронкі маіх успамінаў.*
*Гэта колер болю майго.*
*Гэта след і зары, і кахання...*
*П. Панчанка*

## УЗНЁСЛАЯ ВЯСНА

Вясна! Настрой! А Божа ж мілы!
З душы пачуцці мкнуць стыхійна!
Уплыў твой — пажаданы дар.
У сэрцы ўваскрасіш спадзевы
кахання сонечнай залевы...
І станеш ты крыніцай мар.

А радасць шалёная, шчасце дзівоснае —
вясна сінявокая, ясная, звонкая,
і думак мелодыя грае мажор!..
Іду. Дзень агністы, бясхмарны, чароўны,
вятрыска шуміць ля мяне неўтаймоўны
і водарам п'яніць духмяным прастор.

Прымі ж ты, красуня, мае захапленні!
У сэрцы каханне пускае карэнні,
расце і мацнее... Лірычныя мроі,
надзеі, што здзейсніць не ў сілах жыццё...

Але ж ты квітней і мацней, пачуццё, —
пазбаў маё сэрца былога спакою!

## АСЕННІ ТРЫЯЛЕТ

Пунсовыя рабінавыя гронкі,
налітыя крывёю майго сэрца.
Не лёс з табою больш сустрэцца...
Пунсовыя рабінавыя гронкі.

У голлі загалосіць вецер звонкі —
у думках быццам нешта абарвецца...
Пунсовыя рабінавыя гронкі,
налітыя крывёю майго сэрца.

## АБЛІЧЧЫ ПОЎНІ

З чорных нябёсаў,
з завоблачных плёсаў,
з касмічных вышыняў
мой сон пільнавала поўня...
Яна здавалася мне
то светлым дуплом на старым дрэве,
то белай зіхоткай радзімкай
на целе нябеснай
Вялікай Мядзведзіцы,
то вокам цыклопа,

які чакае, пакуль [redacted] засну,
каб мяне з'есці...

## ЗІМА

Вакол іскрыцца снежны аксаміт.
Махрыстай готыкай застыглі ледзяшы.
Халодная краса — чароўны бляск зімы —
бы казачны дэкор для змерзлае душы.

* * *

Пунсовае з сінім змярканне
з аранжавасцю пазалоты.
Ад самоты шукаю кахання
і ад здрады шукаю самоты.

Усход звонкаспеўны і росны.
Чырвоны шар сінь каранує.
Скажы, мой Настаўнік нябёсны,
хто мары мае зачаруе?

Дзень. Спёка. Наіўнасць рамонкаў
з іх сціплай такой прыгажосцю.
Ці хто назаве мяне жонкай?
Ці я пакахаю кагосьці?

## КАКТУС

Калі зноў узгадаю пра шчасце,
яго ўзнёсла-лірычныя ноты,
на акне натапырыцца кактус —
ганарлівы ўладар самоты.

Ён не цвіў, а глядзеў зласліва
на табой дараваныя ружы...
І змянялася лета імкліва
белым подыхам снежнай сцюжы.

Я аднесла свой кактус сяброўцы:
у яе гэтых гномаў — калекцыя.
Мой закляты вянок самоты —
ён цяпер адно рэтраспекцыя.

## АКТАВА

Золата спеўных лістоў
ноч чорным шалем накрыла.
Ліра маўчала дзён сто...
Муза аб волі прасіла.
Стройных прымроеных строф,
рыфм прыцягальная сіла...

Вершы — мой лёс, не гульня, не забава.
«Восень — твой рай», — мне сказала актава.

* * *

Барвовая Восень
у келіхі лісця
струменіць віно.
Нябесная просінь
на клён залацісты
надзела вянок.
Мой яркі кастрычнік
у княжацкіх шатах —
астральны двайнік...
Дажджом меладычным,
лірычным стака́та
ў душу мне пранік.
Пішу ў рытме сэрца,
малюючы словам
ілюзіі мрой.
А з імі ўзнясецца
ў блакіт вечаровы
мой светлы настрой.

## БЕЛАСНЕЖНЫЯ КРОЗЫ

Прыроды дрогкай аголенасць
накрыў зімовы павеў.
Мроіва снежнага полымя —
на падсвечніках дрэў.

І плечы свецкіх львіц-бяроз —
у гарнастайным футры.
Здзяйсненне беласнежных кроз
заззяла перламутрам.

Ялінак лапкі аж трымцяць
у прадчуванні святаў.
Сняжынкі мокрыя ляцяць
у сум кармічных стратаў.

## РУЖЫ

*(газель)*

Калі разам былі нашы душы,
ты дарыў мне духмяныя ружы.
Летуценні дзявоцтва плылі —
і тады расцвілі белыя ружы.
Адрывалі мяне ад зямлі
мройнакрылыя матылі — сінія ружы.

Ты мяне да грудзей прытуліў
і, цалуючы, падарыў полымя — ружы.
Вы па садзе пад ручкі ішлі,
і ў бязмерным адчаі былі жоўтыя ружы.
Над каханнем анёлы слёзы лілі.
Леглі на развітальны ліст чорныя ружы.

## АСЕННЯЯ КВЕТКА

*Кветкі асеннія, родныя, бледныя!*
*Выраслі вы, каб ураз жа і згінуць.*
*Можа таму-то душа надарваная*
*Гэтак любоўна вянок з вас сплятае.*

*М. Багдановіч*

Марaю нясмелаю,
сумна-задуменна
расцвітала пекнаю
кветкаю асенняй.
Жорсткая пяшчота
золкага дажджу
пранікала ўпотай
у маю душу.
Покуль вецер хлёсткі
не зламаў сцяблiну,
не сарваў пялёсткі,
Сонцу слала гімны.
Ды не звяла кветка,
бо душой — Паэтка.

# ПАСЛЯСЛОЎЕ

## КРАІНА СВЕТУ І КАХАННЯ

Сёння імя Таццяны Барысюк, нягледзячы на не вельмі спрыяльны час для паэзіі, нярэдка можна сустрэць на старонках літаратурных выданняў. Творы яе прыцягваюць да сябе сваёй незвычайнай для сённяшняга веку шчырасцю, якую б іншы паэт, магчыма, ці асмеліўся б выносіць на суд чытачоў. Але ці можа паэт быць няшчырым? Не можа, бо паэзія без шчырасці — гэта проста зарыфмаваныя радкі, якія ніякіх адносін да паэзіі не могуць мець.

Звяртаючыся да сваіх чытачоў, Т. Барысюк невыпадкова прызнаецца: «Я мару ў вас уваскрасаць у думках і не ўпасці ў Лету... І ў вершах вобразам ствараць сваю карціну свету». Чытаючы зборнік паэзіі «Аўтапартрэт», пераконваешся, што паэтка не проста стварае «сваю карціну свету», у якім жывем усе мы, дзе «каханне — як стрэл, расстанне — як смерць», але яна і вымалёўвае яркі аўтапартрэт. Свой партрэт, які трымаецца ў прасторы і ў часе на паэтычных вобразах, нібы на залатым цвіку — на зорцы Кахання.

*Да зор нас вабіў ідэал.*
*Фартуна лёс снавала.*
*Ты некага кахаў...*
*І я — кахала.*

І гэтыя простыя шчырыя радкі вяртаюць кожнага з нас у той свет кахання, калі да ўзаемнасці кожны ідзе сваёй дарогай: «Ты мне насустрач — Млечным Шляхам, я — Месяцовым па вадзе...» Але «маладосць да памылак ляцела, як матыль да загубнае свечкі...» А ўсё ж «твой пацалунак — маё адраджэнне...» І ў гэтым вялікая сусветная таямніца кахання, якое дае сілы для таго, каб аднойчы сказаць:

*Маё жыццё — раман,*
*які мне толькі сніцца.*
*Маё жыццё — падман:*
*магла не нарадзіцца.*

«Магла не нарадзіцца...» — гэта не проста шчырыя словы Т. Барысюк. Гэта наша рэальнасць, у якой мы ўсе жывем. Не было б кахання — не было б кожнага з нас, не было б «Аўтапартрэта», напісанага Таццянай. І таму

*Пакуль жыву, я так хачу*
*смак шчасця зведаць.*
*Каб сонца зорыла ўваччу*
*пад светлым небам.*

«Смак шчасця» ў наш нялёгкі час у кожнага свой, але таксама залежыць ад кожнага з нас. Для закаханага шчасце — гэта калі адчуваеш і разумееш, што

*Кахаеш — будзеш малады.*
*Надзею маеш — не загінеш.*
*Свае пражытыя гады*
*да зораў думкаю ты ўзнімеш.*

І гэтыя словы сугучныя з радкамі Максіма Багдановіча: «Чым больш сыходзіць дзён, начэй, тым імя мілае вышэй...» Імя каханага і пражытыя гады — адно цэлае, бо сапраўднае каханне, як жывая вада, якая зажыўляе душэўныя раны й дае сілы, каб тварыць і сумнявацца ў сваіх сілах, і прызнацца:

*Магчыма, я была*
*калісьці Клеапатрай.*
*Цяпер мой лад жыцця —*
*цнатліўка Ефрасіння.*

І ў гэтым уся таямніца нашых жанчын, і ў гэтым увесь «Аўтапартрэт» Таццяны Барысюк, які не можа пакінуць раўнадушным таго, хто з ім пазнаёміцца, бо ў ім, як у люстэрку, можна ўбачыць сябе. Убачыць і задумацца: «А сапраўды, што ж гэта такое — «зачараванасць» і «расчараванне»?»

Віктар ШНІП,
*лаўрэат прэміі імя*
*Уладзіміра Маякоўскага*

# Змест

## 2. ФІЛАСОФСКІ КАМЕНЬ

### МАЛАНКАВЫ БОЛЬ

## САКРЭТЫ ТВОРЧАСЦІ



## ФОРМУЛЫ БЫЦЦЯ



## ЗОРНЫ ПЫЛ

## ЛІСТАПАД



# 3. BELLA-РУСЬ

## КЛЮЧ ДУХОЎНАГА АДКРЫЦЦЯ



## МАЦЯРЫНСТВА



# 4. ПУНСОВЫЯ РАБІНАВЫЯ ГРОНКІ

Літаратурна-мастацкае выданне

Барысюк Таццяна Пятроўна

АЎТАПАРТРЭТ
Вершы

Рэдактар *А. Масарэнка*
Карэктар *Н. Кучмель*
Камп'ютэрны набор і вёрстка *Д. Андрэеў*
Адказны за выпуск *А. Аношка*

Здадзена ў набор 19.06.2002 г. Падпісана да друку 12.07.2002 г.
Фармат 84x108 1/32 Афсетны друк. Наклад 500 асобнікаў. Зак. 1072.

Выдавецтва УП «Тэхнапрынт», ЛВ № 380 от 29.04.1999
Надрукована на УП «Тэхнапрынт», ЛП № 203 от 26.01.1998
220027, Мінск, пр-т Ф. Скарыны, 65, корп. 14, оф. 215, тал. 231-86-93